# бярозка

№12

№ 12/2016(1063)

ISSN 0320-7579



ГІТ-ZONE

ТРЫ ЭМАЦЫЙНЫЯ ТРАНСЫ

ПРА САНІ І КОЛЫ: ВЫВУЧЫЦЬ, ЗДАЦЬ, ПАСТУПІЦЬ!

# motus*

«Ніхто нічога не сказаў, ніхто не патлумачыў. Ты проста з'яўляешся на свет, крычучы і штурхаючыся, і жывеш, не разумеючы, чаму адчуваеш тое, што адчуваеш. І яшчэ гэтая разгубленасць, больш падобная на павязку на вачах, за якой жах і боль. І, ведаеш, толькі быццам пачнеш разумець, як апынецца, што ты памыляешся. І на самай справе не разумееш нічога.»

З тэлесерыяла
«Звышнатуральнае»

*эмоцыі — тэма нумара

# Якія эмоцыі замінаюць вам у штодзённым жыцці?



### Галіна Галямава, 49 гадоў, бухгалтар:

— Злосць, абыякавасць, чэрствасць, няшчырасць, нядобразычлівае стаўленне. Таму што ўсе гэтыя рэакцыі аказваюць негатыўнае ўздзеянне на навакольнае асяроддзе. Людзі становяцца злоснымі, не заўважаюць чужых праблем, думаюць толькі пра сябе, перашкаджаюць жыць.



### Таццяна Лапцік, 18 гадоў, студэнтка БДМУ:

— Мне наогул перашкаджае лянота. Я ўвесь час змагаюся з ёй. Я з тых людзей, якія зробяць усё добра з першага разу, таму што лянуюцца перарабляць. І гэта на самай справе добра, але мне б хацелася больш прымаць удзел у грамадскім жыцці — замінае лянота.



### Вольга Шарко, 33 гады, студэнтка БДУ:

— У жыцці мне перашкаджаюць страх і нерашучасць перад аўдыторыяй. Настолькі, што перахапляе голас, адключаецца галава і трасуцца рукі. Хоць я і лічу сябе досыць адважным і рызыкоўным чалавекам. Але калі апынаюся перад уважлівай публікай, губляю адчуванне рэальнасці і глебы пад нагамі.



### Васіль Канапацкі, 21 год, журналіст:

— Перашкаджае раздражненне, якое з'яўляецца ў моманты непаразумення, перашкаджае надзея і прадчуванне, якое абясколервае жаданае. Перашкаджае насцярожанасць да людзей, таму што занадта часта нам у жыцці здраджваюць і нас кідаюць, з аднаго боку, хочацца верыць у чалавека, а з другога боку, усё роўна баішся, што ён такі ж, як і ўсе. Так і жывём.



### Віталь Міхалюта, 19 гадоў, менеджар-эканаміст:

— Боязь рызыкаваць часцей за ўсё сустракаецца на маім шляху. Бывае не ведаеш, як паступіць правільна, і страх страціць больш, чым можаш здабыць, перашкаджае ісці да мэты. У такія моманты трэба ўмець стрымаць свае эмоцыі і адэкватна ацаніць сітуацыю.



## Алена Паўлоўская, 27 гадоў, інструктар па ёзе:



— Усякая эмоцыя, не пацверджаная глыбінным пачуццём, выводзіць са стану раўнавагі. Унутраны спакой і цішыня, шчасце — пачуцці, якімі прырода надзяліла чалавека. Эмоцыі, якімі б яны ні былі, здольныя толькі вывесці розум на кароткі час са стану балансу. Праўдзівы ёг усімі сваімі дзеяннямі імкнецца ўтрымаць стан спакою, бо кожная пазітыўная эмоцыя вядзе за сабой негатыўную. Толькі застаючыся сабой сапраўдным, можна адчуваць перманентнае пачуццё шчасця.

## Алена Скавінская, 39 гадоў, настаўніца:



— Мне перашкаджае абыякавасць да ўсяго, адсутнасць усялякіх эмоцый. Яны ўзнікаюць з-за самых розных жыццёвых сітуацый: і смех, і слёзы, і роспач, і гнеў.

## Яўген Чарняўскі, 24 гады, SEO-спецыяліст:



— У паўсядзённым жыцці мне часам перашкаджае сарказм, бо вельмі складана мець зносіны з чалавекам, які лічыць сябе прафесіяналам у той ці іншай сферы, але ведае яе павярхоўна.

## Святлана Квяткоўская, 22 гады, студэнтка БДУ:



— У маім жыцці мне вельмі часта замінае зайздрасць. Часам яна не дазваляе мне радавацца поспехам сяброў і знаёмых. Але добра, што я разумею гэта, і калі заўважаю, то намагаюся пераадолець сябе.

## Ганна Камар, 65 гадоў, пенсіянерка, інспектар па кадрах:



— Мне вельмі перашкаджае патрабавальнасць. Асабліва чужая. Я хоць і перфекцыяністка, але вось іншыя людзі заўсёды вельмі шмат патрабуюць. Ім трэба, каб усё было добра, своечасова, прыгожа, акуратна. Ну і яшчэ перашкаджае пачуццё трывогі. У першую чаргу за сваіх дзяцей, унукаў — сям’ю.

Падрыхтавала Марыя Шчыпанава



Кацярына Захарэвіч

# Насуперак модзе

Было неяк, што я падпрацоўвала рэгістратарам у раённай паліклініцы. Сярод пацыентаў, што мне асабліва запомніліся, была адна жанчына. Я бачыла яе ў паліклініцы разоў шэсць ці сем, і кожны раз яна ўсміхалася. Прайшоўшы чорт ведае колькі ў моцны дождж, адседзеўшы шматгадзінную чаргу ў цёмным калідоры, прайшоўшы не надта прыемныя працэдуры — усміхалася. Хіхікала, расказваючы, як зламала руку. А калі яна адыходзіла, людзі, што стаялі побач, як па загадзе, пачыналі пераглядацца, акругляць вочы, хіхікаць і круціць пальцам каля скроні. Ды і мне здавалася, што не можа нармальны чалавек увесь час усміхацца. Ці можа? Гэта першы эпізод.

Эпізод другі: размаўлялі з сяброўкай дзяцінства, якая актыўна спрабавала мяне пераканаць, што людзям верыць нельга, усе яны народжаныя з адной толькі мэтай: падманваць адзін аднаго. Яна, маўляў, не раз гэта на сабе праверыла і прыйшла да старой нядобрай праўды: «чалавек чалавеку — воўк». Усе мае аргументы — што падобнае прыцягваецца падобным, што чалавецтва ў масе і чалавек асобна не такія ўжо і дрэнныя і, у рэшце рэшт, кожны мае права разводзіць у сваёй галаве прусакоў і іншую жыўнасць — не мелі вынікаў.

Падумалася: чамусьці многія прагнуць падаслаць сваім блізкім саломку з парад, перасцярог і запалохванняў, калі іх пра гэта зусім не просяць. Так імкнуцца прадухіліць самыя прыемныя памылкі людзей: шчасце, давер, каханне, жыццялюбства. Што гэта: зайздрасць ад таго, што не змаглі ўпасці самі там, дзе ў шчаслівым палёце распластаўся нехта іншы, ці шчырае жаданне дапамагчы пазбегнуць распаўсюджаных, на іх думку, наступстваў?

Чамусьці ахапкі саломы, якія спрабуюць нам падкласці для выратавання, часам падазрона нагадваюць перавязаную прыгожай падарункавай стужкай свінку. І міжвольна складваецца ўражанне: усмешлівы чалавек — як бяльмо на воку для астатніх, прыціснутых сваімі праблемамі і трывогамі людзей, на яго косяцца, яго цураюцца, яшчэ трохі — дастануць рэспіратар і з журботным пачуццём уласнай годнасці зусім ужо засцерагуць сябе ад добрага настрою. А вось вірус засмучэння распаўсюджваецца зусім без перашкод паветрана-кропельным шляхам: у грамадскім транспарце раніцай, ва ўніверсітэтах і офісах, дзе людзі згінаюцца пад грузам нялюбай работы ці вучобы, на сяброўскіх вечарынах у кафэ і на кухні, дзе кожны імкнецца спіхнуць на каго-небудзь свой душэўны груз...

І хочацца — не ў імя выратавання чалавецтва, а насуперак дзіўнай модзе не ўмець радавацца жыццю — усміхацца.

# Пра сані і колы: вывучыць, здаць, паступіць!



Сяргей Грудніцкі

Ужо вырашыў, кім хочаш стаць? Знайшоў ВНУ, куды будзеш падаваць дакументы? Упэўнены ў сваім выбары? Перажыўшы паступленне, я вылучыў пяць асноўных момантаў, якія дапамаглі мне пачуць запаветнае: «вы залічаны».

## Пра сябе

Першы і самы галоўны залог — вера ў сябе. Яна павінна быць не толькі падчас экзаменаў і ЦТ, але і на працягу навучальнага года. Калі сумнявацца ў сваіх ведах і разлічваць на горшае, то так і будзе. Павышай самаацэнку, давай сабе ўстаноўку на тое, што ты ўсё адолееш, вер у свае сілы — і абавязкова апынешся ў лекцыйнай аўдыторыі ў якасці студэнта.

## Пра бацькоў

Парады мамы і таты — гэта, канешне, добра. Але не заўсёды ў выпадку з выбарам прафесіі. Ты ўжо дарослы, каб вырашыць, кім хочаш стаць. Нават калі абраная спецыяльнасць сёння непрэстыжная і нізкааплатная, трэба ісці напралом і дасягаць сваёй мэты. У любым кірунку ёсць майстры, якія дасягнулі поспеху і сталі высакакласнымі прафесіяналамі. Ацані сітуацыю: ці будзе ў цябе жаданне пакараць Парнас у справе, якая табе не падабаецца?

## Пра рэпетытараў

Дадатковыя заняткі — сіла, але толькі ў тым выпадку, калі ты актыўна працуеш з выкладчыкам. Якім бы «крутым» ні быў рэпетытар, калі ў цябе няма жадання, ведаў ад платных урокаў не дадасца. Што датычыцца гуманітарных навук: па гэтых прадметах хатніх настаўнікаў для цябе існаваць не павінна. Гэта не матэматыка або хімія — тут не разумець, а вучыць і ведаць трэба. У дапамогу — сотні кніг па самападрыхтоўцы. Парайся са школьным настаўнікам наконт аптымальнага варыянту, вызначся з часам, які ты будзеш вылучаць для самастойных заняткаў, і прыступай.

## Пра жаданне

Няма жадання вучыцца — няма матывацыі — няма выніку. Тры звяны аднаго ланцужка. Каб захаваць яго цэласнасць, не марудзь на ўроках (асабліва тых, па якіх будзеш пісаць ЦТ), задавай пытанні выкладчыку і прасі растлумачыць незразумелае, якасна выконвай дамашнія заданні, наведвай факультатывы.

## Пра фантазію

Яшчэ адзін важны фактар — уяўленне пра будучыню пасля ВНУ (бо вучымся мы для атрымання пэўнай прафесіі). Для гэтага вызначы, у якіх кірунках ты б хацеў працаваць, і, па магчымасці, прасачы за «кухняй» кожнай спецыяльнасці. А потым прааналізуй убачанае і ўяві, як будзеш глядзецца на гэтым месцы. Хораша? Віншую, ты на правільным шляху!



Юлія Спічакова

# Пазітыў — і толькі!

Мы ўсе розныя, таму кожны з нас па-свойму цудоўны. Пры гэтым існаванне эталонаў прыгажосці, навязаных грамадствам, — з'ява ўвогуле немагчымая. Бо як можна выраўняць усіх па вузкіх прыкметах знешнасці? Падцягнутыя, з даскантала роўнай скурай і беласнежнай усмешкай — тыя, хто вітае нас з тэлеэкранаў. І хай бы яны мірна красаваліся, але падлеткі з нестандартнай знешнасцю з-за іх адчуваюць сябе непрывабнымі. Людзі паказваюць нам нашы асаблівасці — і пад уплывам гэтых меркаванняў мы прымаем іх, асаблівасці, як недахопы. Body Positive — рух, які навучыць любіць сваю знешнасць.

Вітаем новага аўтара!

Юлія Спічакова нарадзілася 30 снежня 1999 года ў Магілёве. Марыць атрымаць адукацыю журналіста. Любіць музыку 1980-х і французскае кіно. Шануе ў людзях нестандартнасць, пачуццё гумару і творчае мысленне. Лічыць, што ўменне прыгожа выкладаць думкі — гэта гарантыя паспяховага жыцця.

## Ідэі руху

«Прымі сваё цела і закахайся ў сябе», — вось асноўная ідэя светапогляду. Варта ставіцца да сябе з пазітывам і акружаць сябе пазітыўнымі людзьмі. Але ў якім бы грамадстве ты ні знаходзіўся, ніхто не мае права асуджаць цябе за твой знешні выгляд. Людзі могуць ацэньваць тваю ўнутраную прыгажосць, але ніяк не знешнюю. Сапраўдная прыгажосць — гэта прыгажосць духу. Табе не трэба сачыць за модай і насіць вопратку, у якой табе не камфортна. Будзь сабой — ты цудоўны, ніколі пра гэта не забывай.

## Развіццё ідэалогіі

Першапачаткова Body Positive знайшоў сваё прымяненне ў краінах Захаду. Шмат зорак падтрымалі рух і адмовіліся ад рэтушы сваіх фатаграфій. Беларускія фатографы таксама перахапілі гэтую ідэю. У свеце мадэлінгу ўжо не здзіўляюць мадэлі памеру «плюс». Але мадэль з пігментнымі плямамі Віні Харлоў стала сапраўдным адкрыццём. Яшчэ адзін яскравы прыклад барацьбы з грамадскім асуджэннем — сацыяльны ролік «Ты выглядаеш агідна». А таксама «Эскізы сапраўднай прыгажосці» ад фірмы Dove. Гэта мой любімы прыклад, які паказвае, наколькі мы крытычныя да сябе.

Зразумела, што прыгажосць і здароўе — словы-сінонімы. Трэба сачыць за сваім здароўем, якіх бы ідэй ты ні прытрымліваўся. І нават калі ты хворы, трэба заўсёды ўмець усміхнуцца гэтаму свету. Шчаслівы чалавек, як сонейка, грэе навакольных сваёй прыгажосцю і цеплынёй.

# «Студэнты журфака — энергазахавальныя»



**Інга Дзмітрыеўна Воюш з тых выкладчыкаў, якіх выпускнікі Інстытута журналістыкі ўспамінаюць з найбольшым цяплом. І гэта ўзаемна. У яе вучацца не толькі гісторыі журналістыкі і іншым спецыяльным дысцыплінам, але і светаўспрыманню. Менавіта на яе старонцы «УКантакце» заўсёды можна знайсці трапныя парады і актуальныя аб'явы. Вось і інтэрв'ю атрымалася такое: Інга Дзмітрыеўна распавядае больш не пра сябе — пра студэнтаў. Даведаемся, як ужо зараз абітурыентам рыхтавацца да паступлення ў Інстытут журналістыкі, як першакурснікам прызвычаіцца да новых умоў жыцця і як правільна… ленавацца.**

**— Як вы трапілі на журфак?**

— Дзіўным чынам. Мне патэлефанаваў загадчык кафедры і сказаў, што мяне рэкамендавалі. Мы прагаварылі дзве гадзіны: я спрабавала высветліць, што філолаг можа даць журфаку, а ён — што я за чалавек і ці можна са мной мець справу. У выніку я прыйшла на факультэт, за што вельмі ўдзячная свайму тагачаснаму шэфу.

Адразу мяне ўразіла адрозненне будучых журналістаў ад музыкаў, настаўнікаў, выхавальнікаў, з якімі даводзілася працаваць раней. Высокія дасягненні, надзвычайная адоранасць студэнтаў, эрудыцыя, стыль — з аднаго боку. Канкурэнтнае асяроддзе, тролінг, ганарлівасць, адсутнасць чалавечых сувязяў і сяброўскіх адносін — з другога. Гэта было дзіўна і нязвыкла. Цяпер усё крыху па-іншаму, ды і на рэчы я гляджу з іншага ракурсу. Але тады, пасля цяплічнага педагагічнага асяроддзя, я была нявопытная і не гатовая да свабоды.

**— Які ён — ваш журфак? Раскажыце пра любімыя месцы і гісторыі.**

— Мой журфак — гэта тыя, каго я вучу, тыя, з кім сябрую, тыя, з кім супрацоўнічаю. Гэта маё працоўнае месца, проста чароўнае зімовымі вечарамі. Там ціха, утульна, бязлюдна, прыходзяць ідэі, добра марыцца пад кубачак гарбаты з печывам. І, так, у мяне ёсць на факультэце таемнае любімае месца, дзе можна пабыць у адзіноце, але я не скажу, якое, інакш якое ж гэта таемнае месца?

Мае людзі на журфаку — маўчуны і «ціхарысты». Пры далейшым знаёмстве менавіта яны часцей за ўсё адкрываюцца вельмі незвычайным чынам. Не зусім мае — тыя, што душаць, кіруюць, дазваляюць сабе крычаць на малодшых ці слабейшых, актывісты, нават калі ўсё па справе і справа дае добрыя вынікі. Гэта пытанне не чалавечых якасцей, а асабістых пераваг, я б так сказала.

Любімыя гісторыі звычайна звязаны з бескарыслівасцю ці чалавечнасцю. Напрыклад, мая студэнтка мела дадатковы бал, зароблены падчас моўнай алімпіяды, які магла выкарыстаць на іспыце. І яна яго прапанавала свайму сябру, каб яму хапіла балаў для стыпендыі.

**— Як вы лічыце, якая матывацыя ў абітурыентаў Інстытута журналістыкі?**

— Матывацыя і глабальная, і фантастычная — зрабіць свет лепшым, спрыяць усталяванню справядлівасці. Калі яна не такая, то няма чаго рабіць у медыя. Заўсёды, вядома, ёсць тыя, хто любіць не журналістыку ў сабе, а сябе ў журналістыцы. Але ў кожнай прафесіі, напэўна, ёсць такія людзі.

Калі чалавек вырашае паступаць да нас на факультэт, добра было б ведаць, навошта яму гэта трэба, ці ягонае гэта рашэнне, ці не прадыктаванае яно ціскам бацькоў або жаданнем «быць не як усе». Важна, каб абітурыент усведамляў, што калі ў школе ён піша сачыненні з-пад палкі, то пасля журфака пісаць стане яго штодзённай працай, без перапынкаў на натхненне.

Перад паступленнем абітурыенты прыходзяць да нас пазнаёміцца, пераканацца, што яны зрабілі правільны выбар, паспрабаваць сябе. Часам гэта адзінаццацікласнікі, часам дзесяцікласнікі. Мы прапануем ім павучыцца на курсах — мінчукам з кастрычніка да мая, а іншагароднім — два тыдні пасля заканчэння ЦТ.

**— Раскажыце пра падрыхтоўку да паступлення.**

— Я на курсах працую гадоў шэсць. Мы рыхтуем абітурыентаў да ўступнага іспыту «Творчасць» — да напісання сачынення, здачы вуснага пытання на сумоўі і рэдагавання тэкстаў на беларускай і рускай мовах.

Асноўны ўпор у 1—2 чвэрці 11 класа важна зрабіць на напісанне публікацый. Яны могуць праляжаць нейкі час у рэдакцыі, могуць наогул не выйсці. Добра было б мець у запасе пару месяцаў, каб выправіць становішча, калі што. Часта абітурыентам прыходзяць на дапамогу студэнцкія СМІ журфака **studlive.by** і **websmi.by**. Там можна лёгка размясціць публікацыю анлайн, раздрукаваць яе і заверыць у Інстытуце журналістыкі.

Таксама ў першай палове года будучыя студэнты вучацца пісаць уступнае сачыненне. Яго адрозненне ад школьнага ў тым, што тэма будзе не літаратурная, а хутчэй грамадска значная, магчыма, звязаная з работай СМІ. Стыль таксама павінен быць набліжаны не да навуковага, як у рэфераце, або мастацкага, а да публіцыстычнага. Асаблівы ўпор я б раіла зрабіць на маўленчае афармленне тэксту, для чаго трэба вывучыць распаўсюджаныя віды моўных памылак. Гэта дапаможа, з аднаго боку, зрабіць свой тэкст больш лёгкім для чытання, а з другога — падрыхтуе да этапу рэдагавання. Калі абітурыент плануе здаваць ЦТ па рускай мове, неабходна падцягнуць арфаграфію і пунктуацыю па беларускай, і наадварот. Бо падчас рэдагавання шукаць памылкі прыйдзецца ва ўрыўках на абедзвюх мовах.

> — Якія эмоцыі замінаюць вам у штодзённым жыцці?
>
> — Як ні дзіўна, мне замінае ўсмешка. Гэта звыклая, штодзённая, чарговая эмоцыя, якая ўзнікае на аўтамаце. І калі мне трэба ўзлавацца, быць строгай і сур'ёзнай, даць наганяй, то з гэтага мала што атрымліваецца. А быць аўтарытэтнай і жорсткай таксама трэба ўмець.

Што датычыцца падрыхтоўкі вуснага адказу, то лепш за ўсё прысвяціць гэтаму другую палову года. Праграмы іспытаў ёсць на сайце факультэта. Лепш за ўсё скампанаваць блізкія тэмы ў блокі і рыхтавацца па цэлым блоку. Напрыклад, побач могуць быць пытанні па ідэалогіі, дзяржаўнасці, нацыянальнай ідэі, ролі СМІ ў кансалідацыі грамадства. Гэта дазволіць зірнуць на праблему сістэмна і прасачыць узаемасувязі, што карысна для адказу на дадатковыя пытанні экзаменатараў. Многія абітурыенты вясной выпісваюць газеты, глядзяць беларускае тэлебачанне, часам слухаюць радыё, каб быць у курсе актуальных навін і мець уяўленне пра кантэнт айчынных медыя, параўнаць стыль вядучых, разумець надзённыя грамадска-палітычныя і сацыяльныя праблемы.

Падчас пісьмовага іспыту сканцэнтравацца нескладана, бо на працягу года будзе напісана шмат трэніровачных сачыненняў. А вось падчас вуснага прыйдзецца ўзяць сябе ў рукі і паказаць, на што здольныя. Для будучага журналіста каштоўнымі якасцямі лічацца ўменне крытычна мысліць, разумець сутнасць з'яў, разбірацца ў структуры грамадства. Пажаданыя наяўнасць уласнага меркавання, пачуццё гумару, упэўненасць у сабе. Усё гэта і павінен выявіць вусны адказ.

**— Як хутка адаптавацца на журфаку?**

— Каб паспяхова «прыжыцца» на журфаку, трэба быць дарослым. Гэта не так проста, калі малады чалавек толькі скончыў школу і быў там пад апекай класнага кіраўніка, настаўнікаў, завуча, бацькоў... Важна імкнуцца паводзіць сябе як адэкватны, адказны дарослы. Гэта і прыемна («Маё жыццё — мае правілы»), і напружана («Ва ўсім, што адбываецца са мной, вінаваты адзін чалавек. Гэта я»).

**— Ці можна скласці партрэт тыповага студэнта-журналіста?**

— Ён вельмі здольны, «прасунуты» ў адной ці некалькіх галінах ведаў або мастацтва. Ён хоча вучыцца, але толькі таму, што здаецца яму карысным і прыдатным тут і цяпер. Ён творчы — можа прыдумаць прынцыпова новую рэч у працэсе разважання над праблемай. І — у сілу ўсіх вышэйназваных рыс — яму многае даецца лёгка, таму ён лянівы і легкадумны. Калі зазззяе на далягладзе гіпатэтычная магчымасць чагосьці не рабіць, рабіць не будзе. Энергазахавальны, карацей. Часам, напэўна, гэта пазітыўная якасць, бо загрузка на журфаку на пачатковых курсах вельмі высокая.

Калі я гляджу, што адбываецца са студэнтамі падчас вучобы ад малодшых да старшых курсаў, мне заўсёды прыходзіць адна аналогія. Памятаеце андэрсенаўскае брыдкае качаня, якое стала белым лебедзем? Вось так прыкладна гэта выглядае. Моцныя бакі асобы падвяргаюцца агранкаванню, выяўляюцца, загартоўваюцца. Слабыя нівеліруюцца, кампенсуюцца, падраўніваюцца. І выходзіць цікавы малады спецыяліст са сваёй унікальнай спецыялізацыяй, скіраванасцю, тэмай.

**— Вы неяк казалі, што імкняцеся адпачываць да таго, як стомленасць стане крытычнай. Калі і як вы адпачываеце?**

— Я навучылася ў студэнтаў ленавацца! Калі нешта мне рабіць вельмі не хочацца, значыць, не трэба. Бо гэта ўжо не на карысць здароўю. Патрэбен перапынак, змена віду дзейнасці. На самай справе мацней за ўсё стамляе патрэба бесперапынна камунікаваць. Дзве гадзіны на дзень — нармальна. Але калі вы гаворыце з людзьмі шэсць — восем — дванаццаць гадзін у суткі, і так ад панядзелка да суботы, то гэта прытупляе радасць сустрэчы, абмену эмоцыямі. Таму я хаваюся ў афлайн, пазбягаю шматлікіх кантактаў, калі адчуваю, што ўжо на мяжы і магу беспадстаўна каго-небудзь пакрыўдзіць. Не ад жадання абразіць, а ад стомы.

Самы хуткі спосаб аднавіцца — гэта прагулка ў адзіноце ў ціхім месцы. Асабліва добра, калі ідзе дождж або наступіла поўнач. У такі час няма тых, хто хоча спытаць дарогу, і парачак, абрыўкі фраз якіх могуць справакаваць думкі. А ў такія хвіліны я пазбаўляюся ад думак — элементарна «туплю» ў адну кропку прасторы перад сабой. Асабіста мяне вельмі расслабляе. Калі гэтая раскоша недаступная, то дапамагае вада — ванна, душ, басейн, лазня, возера. Наогул, магу лекцыю прачытаць, як правільна ленавацца!

**— Прачытайце, калі ласка.**

— «Правільная» лянота — гэта выкарыстанне метадаў тайм-менеджменту (гэтаму вучаць на спецыяльнасці «Журналістыка. Менеджмент СМІ», але можна вывучыць і самастойна). Напрыклад, калі напружана працаваць над тэкстам або заданнем 25 хвілін, не пераключаючыся ні на што, а потым 10 хвілін адпачываць, працаздольнасць захаваецца некалькі гадзін запар. Здаецца, што яшчэ рана ўставаць з-за стала, бо яшчэ не стаміўся, а на самай справе не трэба даводзіць мозг да стану, калі ён адмаўляецца «загружацца».

У Сеціве ёсць арыгінальны і эфектыўны спосаб барацьбы з лянотай з дапамогай… ляноты. Трэба ўстаць сярод пакоя, выключыўшы ўсе прыборы, якія выдаюць гукі, і адправіўшы хатніх за дзверы, пастарацца ні пра што не думаць і ленавацца, колькі душы заўгодна. Звычайна чалавека хапае на хвілін пяць такой вось неактыўнай ляноты — і хочацца ўжо нешта нарэшце рабіць. Для выпускнікоў школы самай важнай і неабходнай «лянотай» з'яўляецца начны сон. Некаторыя спяць па 4—5 гадзін за ноч, і гэта недапушчальна. Калі так атрымалася, лепш легчы і падрамаць 45 хвілін ці 1,5—2 гадзіны. Часам аднавіцца на працягу дня дапамагае нават 15-хвілінны сон. Толькі пастаўце будзільнік, каб не заснуць на больш — выключыцеся ў глыбокі сон, прачнуцца будзе больш складана.

Да правільнай ляноты адносіцца і выкананне рэжыму адпачынку. Канікулы? Абавязкова адпачываць! Выхадныя? Вылучыць сабе дзень без напружання. Абітурыенту патрэбныя сілы і на тое, каб здаць выпускныя іспыты, і на ЦТ, і на ўступныя. Але на гэтым усё не заканчваецца! Арганізму прыйдзецца перажыць стрэс першага курса, а на гэта таксама трэба здароўе. Таму рэгулярны адпачынак, вітаміннае харчаванне, свежае паветра і хоць бы частковае аднаўленне — гэта добрая прафілактыка нервовых зрываў, бяссонніцы і парушэнняў памяці.

Гутарыла Кацярына Захарэвіч

# Навучыцца жыць самастойна, або Рамантыка студэнцкага жыцця



*Апытанка*

**У студэнтаў амаль скончыўся чарговы семестр. Для некаторых гэта чатыры месяцы жыцця ў студэнцкіх інтэрнатах. Я вырашыла даведацца ў сваіх старэйшых знаёмых пра рамантыку і будні студэнцкага жыцця.**

## Надзея Лазерка, першакурсніца біяфака БДУ (жыве ў дзясятым інтэрнаце БДУ):

— Тут нязвыклыя ўмовы. Але ёсць добрыя моманты. Напрыклад, цудоўныя суседзі. Мы дапамагаем адзін аднаму ў вучобе, разам бавім час. Сярод мінусаў — няма сваёй прасторы і прыватнага часу. Я не магу застацца сам-насам з уласнымі думкамі. Часам перашкаджаюць спаць, вучыць, ці я перашкаджаю іншым. Даводзіцца вучыцца жыць самастойна і ўжывацца з людзьмі.

## Галіна Жэрка, першакурсніца МДЛУ (жыве ў трэцім інтэрнаце МДЛУ):

— Я заўсёды лічыла, што інтэрнат — гэта супермегакрута: заўсёды весела і цікава, галоўнае, каб суседзі добрыя былі. Але ўсё не так казачна. Інтэрнат не такі ўжо і новы, таму, каб зрабіць гэта месца ўтульным, я прывезла дыван, столік, цацкі. Вялікі мінус інтэрната — катастрафічны недахоп месца. Мне няма куды пакласці рэчы. Яшчэ тут даволі складана штосьці вучыць, асабліва, калі ты і твае суседзі вучаць мовы і вам трэба практыкаваць вымаўленне. Цяжка сканцэнтравацца, але амаль усюды ёсць пакоі для самападрыхтоўкі. Можна заставацца ў бібліятэцы ва ўніверы і вучыць там.

Мне вельмі пашчасціла з суседкамі, мы сапраўды пасябравалі, разумеем адна адну, гатуем разам, таму з харчаваннем праблем няма. Наконт самастойнага жыцця: не так гэта і складана. Адзінае, трэба разлічваць грошы, разумець, на што яны спатрэбяцца і траціць з розумам.

**Вікторыя Паўлюць, першакурсніца аўтатрактарнага факультэта БНТУ (жыве ў чацвёртым інтэрнаце БНТУ):**

— Я ведала, у якіх умовах давядзецца жыць, таму што ўжо сустракалася з інтэрнатамі падчас удзелу ў алімпіядах і пленэрах. Мой «рэкламавалі» як самы дрэнны з усіх у БНТУ, але ён не апраўдаў майго чакання. У мяне цудоўныя суседкі. Мы агульнымі сіламі ўсё ўпарадкавалі, зрабілі пакой утульным. Мэблі было няшмат, таму кожная везла патроху: хто паліцы, хто тумбы, хто стол. Месца ледзьве хапае чатыром, але мы прывыклі. Галоўныя недахопы: стары будынак, адзін душ на ўсіх і маленькія «суседзі», якіх звычайна травіць санэпідэмслужба. З плюсоў інтэрната — мноства новых знаёмстваў, магчымасць адчуць, што такое самастойнае жыццё, якога я баялася. На шчасце, усё аказалася не так складана, як здавалася.

**Аліна Мірончык, першакурсніца Інстытута бізнесу і менеджменту тэхналогій (жыве ў першым інтэрнаце БДУ):**

— Спачатку было цяжка, бо прыйшлося выйсці з зоны камфорту. Тут усё іншае: маленькая лядоўня на сем чалавек, адна паліца для талерак і посуду, пліта са сваімі асаблівасцямі, маленькая шафа, інтэрнэт адсутнічае, люстэрка няма! Затое вольная. Ну, да 12 ночы, бо потым не пусцяць у інтэрнат. Нягледзячы на ўсе праблемы, паступова прыстасавалася, нават пачало падабацца. Новыя людзі, ты сам па сабе і ні ад каго не залежыш. Ды і плаціць за інтэрнат трэба значна меней, чым за кватэру ў Мінску.

**Крысціна Гунева, студэнтка 3 курса педыятрычнага факультэта БДМУ:**

— У мяне здарылася цэлая гісторыя з засяленнем. Каб аформіць усе дакументы, спатрэбіліся два напружаныя дні. Пакуль стаяла ў чарзе на засяленне, такога наслухалася, што вырашыла: больш за дзве гадзіны не пратрымаюся. А пасля прыйшла ў свой двухмесны пакой. Суседка — прыемная, спакойная дзяўчына. У нас няма ні халадзільніка, ні дывана. На матрацах балюча спаць. Пакуль не прывезла свой, начавала ў мінскай сяброўкі. Пакрысе стварала ўтульнасць. Людзі жывуць і ў горшых умовах, таму я задаволена тым, што ёсць.

**Ганна Бондар, студэнтка 2 курса лячэбнага факультэта БДМУ (жыве ў чацвёртым інтэрнаце ўжо другі год):**

— У першыя дні мне ўсё было дзіўна. Умовы — гэта штосьці, нягледзячы на тое, што я прайшла усе кругі алімпіяды, жыла ў розных інтэрнатах. Спачатку былі тэлефонныя званкі маці амаль са слязьмі. Але з часам прывыкала і да агульнага душа, аднаго на пяць паверхаў, і да прусакоў. Цяпер пра жыццё тут думаю толькі ў пазітыўным ключы. Вакол ёсць добрыя людзі, якія заўжды дапамогуць. Нават калі з'явілася магчымасць пераехаць у іншы інтэрнат, засталася тут, са сваімі людзьмі.

Мне падабаецца інтэрнацкае жыццё, бо тут заўсёды штосьці адбываецца. Я думаю, інтэрнат — адна з абавязковых частак студэнцтва. Тутэйшае жыццё вучыць як бытавым справам, так і чамусьці больш высокаму, напрыклад, узаемаразуменню. Урок самастойнага жыцця тут не толькі ў тэорыі, але і на практыцы.




Подпіс рэдактара

______________

Паліна Забела
11 клас, гімназія № 1, Слуцк

# Снегавік



Ігар і Пашка, ідучы са школы дамоў, спачатку с захапленнем пагулялі ў снежкі, пасля Ігар пачаў катаць снежны ком.

— Ды што мы, першаклашкі якія?! — сказаў Пашка. — Смяяцца ж будуць!

— Не будуць! Мы злепім снегавіка-монстра! Пачварнага і жудаснага!

— Крута! — узрадаваўся Пашка і ўзяўся катаць другі ком.

Снегавік атрымаўся. Хлопчыкі, расчырванелыя і задаволеныя, разглядвалі ўласнае стварэнне: жудасная галава з чорным правалам рота, а зверху вядзерца ад папкорну. Вочы з чырвоных закруташак ад кока-колы ў святле вячаровага сонца здаваліся распаленымі вугольчыкамі.

— І праўда жудасны! — хмыкнуў Ігар. — Здаецца, зараз пачне людзей душыць!

— Не жартуй так! — Пашка нервова перасмыкнуў плячыма. — Гэта з-за яго чырвоных вачэй так здаецца…

Ён падышоў да Снегавіка, выкалупнуў «вочы» і паклаў сабе ў кішэню:

— Так лепш!

Вечарам дома Ігар амаль засынаў над заданнем па алгебры, калі патэлефанаваў Пашка.

— Ты што, на ўсю галаву хворы?! Навошта ты прыпёр мне пад акно гэтае пудзіла?!

— Пра што ты? — здзівіўся Ігар.

— Снегавік у мяне пад акном! Наш снегавік!

— А я тут пры чым?

— Ну, калі не ты, значыцца, сам прыйшоў! — Пашка пакрыўджана кінуў трубку. Ігар, не ведаючы, што думаць, выйшаў на вуліцу і пакрочыў да аднакласніка.

— А гэта праўда не ты? — дзясяты раз перапытваў спалоханы Пашка.

— Ды як бы я яго сюды дапёр!

— Ну, не ведаю, на санках… Сам жа ён ніяк не мог сюды дабрацца! Ці мог, як лічыш?

Ігар, падышоўшы да акна, рашуча зашморгнуў шторы.

— Хто б яго сюды ні прывалок, у дом ён патрапіць не зможа!

У гэты момант штосьці звонка ўдарыла ў шыбу, і ў пакой з-за шторы ўляцела снежная галава.

Ігар падскочыў да сябра.

— Паша, ты цэлы?

Пашка сядзеў на падлозе, ачмурэла разглядаючы шкляныя асколкі, раскіданыя сярод снегу.

Ігар выглянуў у акно: снежны балван стаяў на ранейшым месцы, але без галавы. І ніякіх слядоў навокал.

— Гэтага не можа быць! — прашаптаў ён асіпла. — Што яму ад нас трэба?

— Яму патрэбны вочы! — нежывым голасам азваўся Пашка. — Я кепска бачу!

Ігар азірнуўся і закрычаў ад жаху: бледны Пашка стаяў пасярод пакоя, а замест вачэй у яго былі чырвоныя закруташкі ад кока-колы!..

Прывід Аркаша

Аўтар рубрыкі Ліна Багданава




# Фантан або паводка

Заціснуты далонню кран абурана чмыхнуў і выдаў тузін пузырыстых струменяў. «Фантан ці паводка? — падумалася Ягору. — Што лепш? Калі фантан, то прыбяжыць суседка зверху, старая абрыдлая Клара Леапольдаўна. Будзе енчыць і трэсці паветра сваімі сухенькімі кулачкамі. А калі паводка, то дзядзька Мікола, сусед знізу, прымусіць мяне спачатку ўсё прыбраць, а потым раскашэліцца на рамонт».

— Блінннн... — падсумаваў экстрэмал-аматар і выключыў ваду, пляснуўшы на твар апошнія, не даляцеўшыя да суседзяў, кроплі. — Нават у ваннай немагчыма быць свабодным! І тут даводзіцца стрымлівацца.

Ён ірвануў з кручка ручнік, расцёр шчокі да чырвані і ляпнуў дзвярыма. Хай Клара Леапольдаўна парадуецца — дзядзькі Міколы ўсё роўна дома няма. Звыклыя маніпуляцыі трохі супакоілі. На фоне адносна душэўнага дабрабыту Ягор паспеў паабедаць і ўключыць камп'ютар. Да прыходу мамы трэба было спампаваць рэферат па геаграфіі і вывучыць дзясятак англійскіх выразаў.

На трэцім ўсё пачалося зноў.

— Яны што думаюць, што ў класе толькі эрудыты сядзяць? А самі яны хоць раз спрабавалі гэтыя выразы вымавіць? Прыдуркі...

Хваля негатыву накрыла яго з галавой. Эмоцыі булькалі на паверхні яшчэ не астылай лавы, гучна лопаліся — атакавалі гаспадара. Ягор штурхнуў сістэмнік, потым стол, вылецеў на сярэдзіну пакоя і закруціўся ўстрывожаным чмялём. Нешта катурхаў, нешта папіхаў, нешта кідаў у цемру калідора. Не раз выпрабаваны прыём пакуль не даваў асаблівых вынікаў. Душа бурліла пустой дурной злосцю. Гнеў выплюхваўся рэплікамі, пагрозамі без адраса. У такія секунды Ягор ненавідзеў увесь свет. Увесь, да драбнюткіх бактэрый і вірусаў.

Добра, што працягвалася гэта нядоўга. На змену гневу і раздражненню прыходзілі абыякавасць і слабасць. Хлопец клаўся на тахту, закрываў галаву падушкай. Заміраў, прыслухоўваючыся да акіяна ўнутры сябе. Драмаў, адпачываючы ад нервовага перанапружання. І чакаў наступнага этапу…

— А ўсё ж пачалося з глупства, — не шкадаваў сябе Ягор. — Падумаеш, параўналі цябе з буксірам. Па сутнасці, нават дакладна. Па форме — магчыма пераадолець. У цябе ж з гумарам усё ў парадку, чаго тады шалееш?

Доктар назвала гэта сіндромам эмацыянальнай няўстойлівасці асобы. Гучаў прысуд элегантна, загадкава і амаль прыгожа. Калі б не асобныя няўвязкі. Па-першае, дыягназ ставілі менавіта яму, а па-другое, спецыяльнасць у лекара крыўдная — псіхіятр. Увогуле, больш у паліклініку Ягор не пайшоў. На маму пакрыўдзіўся. І вырашыў з праблемай справіцца самастойна:

— Падумаеш, эмоцыі! А ў каго іх няма? Лёнька азартны да чорцікаў. Мая да ўсяго абыякавая — чыста амёба ў анабіёзе. Сярога фанабэрысты, як Папа Рымскі. Глеб носіцца са сваёй ганарыстасцю, як з банкаўскім мяшком, поўным грошай. Кіра на ўсіх крыўдуе... Жаль Ганны Цімафееўны дастаў ужо ўсіх. Ды па адным нашым класе эмацыянальны алфавіт скласці можна: Ромка — зайздроснік, Сцёпка — іранічны звыш усякай меры, Марынка — падступная... Калі б на кожнага настаўнік рэагаваў востра, нават харашыстаў у класе не засталося б. Але пакуль заўважаюць толькі мяне. Прыходзіцца за ўсіх адказваць.

Пералічваючы эмоцыі аднакласнікаў, Ягор трохі супакойваўся. Але спакой сыходзіў так хутка, як прыходзіў. Яго нервавалі пах вячэры і мяўканне кошкі за акном, трывожныя навіны і непадрыхтаваныя ўрокі, болька на падбародку і трэньканне тэлефона. Дарэчы, пра тэлефон…

Хлопец націснуў на зялёную стрэлку і з усмешкай ідэнтыфікаваў суразмоўцу: — Ромка, ты…

Сёння менавіта Ромку дастанецца больш за астатніх, сам напрасіўся. У рэшце рэшт, эмоцыі патрабуюць разрадкі, самы час выканаць іх маленькі капрыз. І няважна, што з-за тэлефонных «разрадак» сяброў у Ягора станавілася ўсё менш, а праблем — больш. Што эмоцыі паспяхова заваёўвалі ўсё больш складаныя

ўзроўні ў яго свядомасці, а фантаны і гейзеры паспелі перарасці ва ўсяленскі патоп. Па вялікім рахунку, адольваць стыхію не было каму — плывец даўно і безнадзейна стаміўся. Хуткасны катар змяніўся спачатку лядачай лодкай, а потым і зусім дошкай для сёрфінга. Тут ужо не да плавання, утрымацца б…

**Першакласнік з яблыкам:**

— О, алфавіт — гэта выдатна! Мы якраз вучым. Цяжка ідзе, але павінны справіцца. Эмоцыі пакуль не праходзілі. Думаеш, усё так сур’ёзна? Можа, варта пераключыцца на прыемнае. Хоць бы мульцікі пра Машу і мядзведзя паглядзеў. Мне дапамагае. Або яблычак з’еш. Падзяліцца?

**Шкодная вучылка:**

— От ужо мне гэтыя эмоцыі! Ледзь што — усё валяць на іх. Зручна — з вінаватага або нядбайнага вучня як з гусі вада: «А я тут пры чым? Гэта ўсё яны, эмоцыі». Універсальную адгаворачку сабе вынайшлі. А педагогам з гэтым што рабіць? Вучыць як тых неўрастэнікаў? Добра б аднаго, ну, парачку. А калі цэлы клас? Нешта праграма на гэтую з’яву ніяк не рэагуе. Так што, дарагія мае, прыйдзецца вучыць. У гневе і радасці, у маркоце і захапленні, з задавальненнем ці з пагардай, агідай. А што? Мы вас, нягледзячы на эмоцыі, вучым. Лекары лечаць, цырульнікі стрыгуць. Так што прывыкайце.

P.S. Не забывайся, у нас заўтра праверачны тэст. Добра было б падрыхтавацца. Вось і пераключыся на час.

**Прасунуты старшакласнік:**

— Пакуль жывы — эмацыянальны, асабіста я так лічу. Інакш бы жыццё наша не мела колеру і паху і было б падобнае на леташні ліст. Прыкінь, хадзілі б усе мы як зомбі — ні ўсміхнуцца, ні падміргнуць, ні засмяяцца, ні абняцца. Нудота! І потым, усім вядома, што эмоцыі бываюць станоўчыя і адмоўныя. Добра, на негатыўную іх частку злавацца. А з пазітывам як быць? Любая з’ява ў нашым свеце мае дрэнны і добры бакі. Прычым, у ацэнках розных людзей дрэннае і добрае не заўсёды супадае. Вось так мы арганізаваныя. Эмоцыі не толькі ўскладняюць нам жыццё, але і дапамагаюць, афарбоўваюць яго ў дарагія сэрцу колеры, пахі, гукі. Менавіта з імі мы можам атрымліваць асалоду ад жыцця. Менавіта за гэта так яго шануем.

Пазітыўныя эмоцыі надаюць нам сілы, дазваляюць з жаданнем ісці да пастаўленай мэты, пераадольваць цяжкасці, быць упэўненымі і аптымістычнымі. Негатыўныя таксама не варта падвяргаць астракізму і час ад часу вывarочваць, каб не давесці іх запас да цяперашняга выбуху.

У тваім выпадку эмоцыі бяруць верх над воляй і розумам. Значыць, пара выкарыстоўваць дапамогу. Зайдзі да нашай Таццяны Яўгеньеўны, падзяліся праблемай. Яна абавязкова дапаможа — сто разоў праверана. Суперскі псіхолаг!

І яшчэ, ведаеш, якая эмоцыя самая заразная? Вось з раніцы і праверыш: усміхайся з таго моманту, як устанеш, і да самай школы, а пасля палічы, колькі

людзей усміхнуліся ў адказ. Галоўнае, каб усмешка атрымалася шчырай. Гарантую — дзень пройдзе без праблем. Ну, ці амаль без праблем. Але да псіхолага зайсці не забудзься. Прывітанне сёрфінгістам!

**Вопытны псіхолаг:**

— Прывітанне! Чым больш працую ў школе, тым больш упэўніваюся, што непсіхолагаў тут няма. Шкада, што дыпломы выдаюць не ўсім. Сам падумай, колькі карыснага табе да мяне нагаварылі. І амаль з усім я згодна. Акрамя твайго нежадання наведваць псіхіятра. Трэба — значыць, трэба. Сам бачыш, не справіцца ў адзіночку. А спецыяліст дапаможа дайсці да перамогі самым рацыянальным шляхам. Задумайся і прымі правільнае рашэнне. Падобна на тое, што эмоцыі льюцца цераз край. У падлеткавым узросце падобнае здараецца. Часцей, не ў крыўду будзе сказана, у дзяўчат. Але і хлопцы ад падобнай непрыемнасці не застрахаваныя.

Кожны чалавек сам выбірае метады, якія дапамогуць яму кантраляваць свае эмоцыі і накіроўваць іх у патрэбнае рэчышча. Іх не так і мала, можна камбінаваць, атрымліваючы ад самой справы крыху задавальнення. Некалькі парад, спадзяюся, табе дапамогуць:

- старайся стрымлівацца, вазьмі на ўзбраенне правіла «лічы да дзесяці» — рэагаваць на непрыемнасці пасля некаторага перапынку (10—15 секунд);
- старайся не заўважаць негатыва, не надавай значэння непатрэбнай інфармацыі, навучыся дыстанцыявацца ад сварак і крытыкі, падыходзь да пытання з пазіцый карыснасці і асабістай значнасці, выцясняй негатыў пазітывам, шукай яго ў жыцці — ён заўсёды побач;
- навучыся пераключацца на прыемнае, выкарыстоўвай для гэтага любімыя заняткі: паслухай любімых выканаўцаў, паглядзі добрую камедыю, пакатайся на ровары, запішыся ў басейн, прагуляйся па парку;
- выкарыстоўвай магчымасці медытацыі або спорту — фізічныя і духоўныя нагрузкі выдатна здымаюць напружанне, засвой некалькі дыхальных практыкаванняў, найпрасцейшыя прыёмы аўтатрэнінгу;
- запішыся на курс да псіхолага або псіхатэрапеўта, падзяліся праблемай з бацькамі, наведай некалькі трэнінгаў па канфлікталогіі;
- навучыся візуалізаваць эмоцыі, з часам ты зможаш кіраваць імі ў сваёй свядомасці — «тушыць», «бурыць», «спальваць»;
- навучыся шкадаваць тых, хто выводзіць іншых з сябе (не ад добрага жыцця яны гэта робяць).

Запомні яшчэ некалькі простых і дзейсных практыкаванняў: праць, мыць вокны, біць посуд (досыць старога кубка), танчыць і змяніць абстаноўку. Ну, і водныя працэдуры. Толькі без фанатызму — фантанаў у нашым горадзе і так хапае.



# Жахі гледачоў, або Два промахі Анджаліны Джалі

**Кагосьці насцярожваюць фільмы жахаў — страх і трывога ахопліваюць гледачоў. Я ж адчуваю тое самае, калі трапляюцца стужкі з дрэннай рэжысурай, няўдала выкананымі ролямі, слабым сцэнарыем і іншымі недарэчнасцямі.**



## «У краі крыві і мёду», ЗША, 2011.

Па-першае, хачу выказаць павагу да Анджаліны Джалі. Для мяне яна заўсёды была адной з самых любімых актрыс сучаснасці. Ваенная драма «У краі крыві і мёду» — яе рэжысёрскі дэбют, пасля якога Джалі яшчэ застаецца ў катэгорыі «любімых», але толькі ў якасці актрысы. Няма сумненняў, што яна сваёй работай хацела нагадаць свету пра жахі вайны. Правал «успаміну» ўскладаю на плечы рэжысёра.

**Што палохае:**

• гледачам не прадстаўлена ні аднаго тлумачэння таго, чаму людзі, якія доўга жывуць у гармоніі (так сцвярджае першы кадр стужкі), раптам перасталі спачуваць. Вайна паміж баснійцамі і сербамі пачынаецца нечакана, і яе прычыны так і застаюцца таямніцай для аўдыторыі;

• у адрозненне ад рэжысёраў з былой Югаславіі, якія стварылі ўжо не адзін дзясятак фільмаў пра Баснійскую вайну, Анджаліна адкрыта прымае адзін з бакоў канфлікту;

• у фільме з любоўю выбудаваная кожная жорсткая сцэна, адно з забойстваў паказана запаволена.

Фільм быў намініраваны на «Залаты глобус».



## «Ясенін», Расія, 2005.

Серыял «Ясенін» далёкі ад гістарычных дакладнасцей. Факты біяграфіі сказілі так, што нашчадкі паэта (унук і праўнучка) хацелі падаць у суд на аўтараў стужкі.

**Што палохае:**

• тыя падзеі, якія адбываліся ў 1922 годзе, у фільме датуюцца 1924-м, тыя, што ў 1916-м, здараюцца ў 1922-м;

• у фільме Сяргей Ясенін пастаянна экспромтам складае вершы, што на самай справе, па водгуках сучаснікаў, здаралася з ім надзвычай рэдка;

• расійскі літаратуразнавец Алег Лекманаў звярнуў увагу толькі на адну недакладнасць, хоць, паводле яго слоў, у серыяле іх шмат. У фільме паказваюць царскую армію, і там салдат кажа «Ёсць!» на словы камандзіра. Такая форма адказу была ўведзена шмат пазней, у царскай арміі адказвалі: «Слухаюся»;

• Аляксандр Блок у серыяле памірае ў 1922 годзе, а насамрэч 7 жніўня 1921 года.

Некаторыя літаратуразнаўцы прысвяцілі аб'ёмныя артыкулы якасці серыяла.



## «Турыст», ЗША—Францыя, 2005.

Кажуць, кашу маслам не сапсаваць. А Джоні Дэпу і Анджаліне Джалі ўдалося. Фільм «Турыст» можна назваць адным з найгоршых у іх кар'еры. Дзіўна, што стужка пра шпіёнаў, у якой дзеянні адбываюцца ў Венецыі, з зоркамі першай велічыні ў галоўных ролях, магла атрымацца настолькі нуднай. Не ўратавалі ні пагоні, ні фантастычна прыгожыя ўборы. А паміж галоўнымі героямі ніякай хіміі: калі яны цалуюцца, хочацца пазяхаць. Кінакрытык Роджэр Эберт ацаніў карціну на 2 балы з 4 магчымых, а Пітэр Трэверс з «Rolling Stone» паставіў 0 і ўключыў фільм у дзясятку найгоршых у 2010 годзе.



## «Ведзьма з Блэр: Курсавая з таго свету», ЗША, 1999.

Па-сапраўднаму страшнае — на дэсерт. Я кажу пра той страх, што прымушае нашы наднырачнікі выпрацоўваць адрэналін. Вырашылі неяк мы з сяброўкамі паглядзець што-небудзь гэтакае, жу-у-удаснае. Арыентуючыся на водгукі і крытыку, знайшлі фільм «Ведзьма з Блэр: Курсавая з таго свету». З іроніяй аднесліся да актуальнай для нас назвы і пачалі прагляд. Гэта было жа-а-ах як страшна.

**Добра палохае:**

• фільм прадстаўлены ў выглядзе аматарскай відэаздымкі. Эфект прысутнасці дадае рэалістычнасці;

• атмасфера змрочная і загадкавая;

• няма ніякіх забойстваў, трупаў, крыві і іншага.

Фільм атрымаў прыз маладзёжнага журы на Канскім кінафестывалі ў 1999 годзе, але мае і антыўзнагароду прэміі «Залатая маліна» (2000) за перамогу ў намінацыях «Найгоршы фільм» і «Найгоршая жаночая роля». У тым жа годзе быў прызнаны «Лепшым фільмам жахаў» па меркаванні Акадэміі навуковай фантастыкі, фэнтэзі і фільмаў жахаў (ЗША) — прэмія «Сатурн».

Марына Шантыр

# Кэці і голад

«27.12.1941. Жывём вялікімі надзеямі на паляпшэнне, як быццам рэальнымі, мяркуючы па нашых поспехах на фронце. Сілкуюць мяне з сталовай, першае — памыі, другое — часта конская катлета, рэпка, гэта лепшы абед у сям'і» — з апошняга запісу блакаднага дзённіка Уладзіміра Самойлава. Блакадны дзённік — звычайны сшытак, у які запісвалі свае думкі і разважанні блакаднікі. Некаторыя з іх, як і Уладзімір Канстанцінавіч, рабілі запісы да самай смерці. З пачатку блакады У. Самойлаў у сваім дзённіку апісвае ўсе кірункі жыцця Ленінграда. Безумоўна, значная частка нататак прысвечана галоўнай праблеме — здабычы харчоў. Таксама Уладзімір Канстанцінавіч цікавіўся навінамі з фронту, хваліў ленінградцаў за цярплівасць і трываласць, верыў, што пераможам. Праўда, з кожным тыднем слабеў ад голаду і не надта спадзяваўся, што дачакаецца перамогі. Так і адбылося…

P.S. Уладзімір Самойлаў памёр ад голаду. Перад смерцю ён усыпіў і пахаваў свайго сабаку — Кэці, з якой разам пакутавалі ад недахопу харчоў.

«Дзень шэры, марозны. Голад стукаецца ў дзверы ... слабеем, усе дзеянні аўтаматычна ўжо зводзяцца да таго, каб дзе-небудзь і што-небудзь перахапіць...»

25.10.1941

«Ездзіў да Севы [сына], дзякуй, дапамог хлебам з рэзерву сваіх порцый ... ажываю, тым больш норму знізілі для рабочых 250 гр, для служачых і нас 125 гр.».

20.11.1941

«Кэці [сабака] вельмі схуднела, а таму, верагодна, з'ела маю апошнюю шакаладную цукерку, якая ўпала. Марыў яе аднесці Тані [дачцэ]. Я адчуваю слабасць, і зусім мех з косткамі».

20.10.1941

# Біяграфія

Самойлаў Уладзімір Канстанцінавіч нарадзіўся ў Санкт-Пецярбургу, там жа і скончыў інстытут. Да 1914 года працаваў у Магілёве начальнікам участка Ліба-ва-Роменскай чыгункі. Пасля быў запрошаны ў Санкт-Пецярбург на Пуцілаўскі (з 1934 года — Кіраўскі) завод інжынерам-тэхнолагам. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны быў ужо на пенсіі. Падпрацоўваў загадчыкам гаспадаркі ў школе.



**Музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны:**
**Мінск, пр. Пераможцаў, 8.**

# «Возера Радасці»

А радасці няма… Хутчэй «адчуванне, якое ахоплівае ў незнаёмым горадзе падарожніка па выхадзе з цягніка без намёку на ідэю, дзе ён будзе начаваць…» (166). Як піша сам Віктар Марціновіч пра абраную сітуацыю: «Тут жа — іншая ступень роспачы» (166). Але яе ж адчуваеш пасля прачытання «Возера радасці». Бо незразумела, што рабіць. Што рабіць з тым, пра што напісана ў кнізе? Навошта было перагортваць апошнюю старонку рамана? Карацей, цягнік спыніўся, ты выходзіш, а што рабіць — незразумела…

Цікава, што аўтар сам акрэслівае тэматычнае поле сваіх «літаратурных плёнаў» у «Возеры радасці»: «Большасць сучасных беларускіх кніг напісаныя пра мову ці страчаны рай, за гэтымі тэмамі аўтары нібы з усіх сіл намагаюцца схавацца ад таго, што напраўду балюча; большасць несучасных беларускіх кніжак пра меліярацыю, Вялікую Айчынную вайну і савецкую праграму адраджэння вёскі, якія для аўтараў з БССР гэткай жа заслонай ад рэальнасці, як цяпер — мова і ўспаміны пра адабранае хараство» (83). Выказвае, быццам бы расстаўляе кропкі над «ё»: Віктар Марціновіч — сучасны беларускі пісьменнік, творчасць яго закранае пытанні мовы і ўспамінаў пра страчанае хараство або рай.

Калі ж кіравацца логікай і ўспомніць, што пра мову ў аўтара ёсць аднайменны раман, нескладана вызначыць: «Возера Радасці» — гэта пра страчаны рай. І сапраўды, сюжэтная лінія рамана заснавана на жыцці Ясі, «рай» якой перастае існаваць пасля смерці маці. Пры гэтым мы не ведаем, як выглядаў той рай, з чаго ён складаўся і чаму так хутка знік. Але здагадваемся, што светаадчуванне Ясі заснавана на думцы, «калі б… усё магло скласціся інача». З іншага боку, ці шкадуе дзяўчына пра тое, што было ў яе жыцці? Думаю, не. Яна гатовая трымацца за любую магчымасць вярнуцца ў свой рай (спрабуе наладзіць адносіны з бацькам і цёткай Таняй), нават стварыць новы (любоўная лінія) або склеіць з ілюзій стары (верыць у аўтарскі шлях дасягнення Возера Радасці). Навошта? Адказ дакладна ў кожнага будзе свой. Проста для мяне яго няма, як і Возера Радасці ў кнізе Марціновіча.

Як піша аўтар: «Раздача лёсаў — занятак чыноўнікаў…» (40). У некаторых выпадках, канешне, і пісьменнікаў. Ясі было наканавана пажыць у дзіцячым прытулку, адчуць, што такое размеркаванне, папрацаваць у Маскве, павучыцца ў Вільні, быць цяжарнай. Да таго ж, яе бацька — чыноўнік, пра якога пішуць у часопісах, клічуць Сяргей Юр'евіч і часова, як і яго калег, шануюць і баяцца.

Яся — чалавек без Возера Радасці і шчасця, але з светлым сумам і надзеяй. «Ёй (Ясі) думаецца, што чалавек — гэткая ж бурбалка ветру, што мітусіцца ў цемры ў пошуку таго, з кім мог бы зліцца на кароткае імгненне падараванага яму існавання. Ён гэтаксама залежны ад пары, таксама шукае яе, слепа і бязладна лётаючы ў цемры. Той факт, што ў яго ў адрозненне ад аднадзёнкі ёсць рот, страўнік і азадак, не робіць яго больш шчаслівым, калі ён не знаходзіць пары» (110). Шмат засталося па-за межамі Ясінага жыцця: сям'я, «рыбка» (так яна называла ненароджанае дзіця), каханне.

Праўда, дзяўчына ў пэўны момант быццам бы «злавіла» адчуванне шчасця. Але Марціновіч прыкладае гэта да сітуацыі, калі Яся выходзіць з месца зняволення бацькі: «Пасля знаходжання, нават вельмі кароткага, у пакоі з кратамі на вокнах і цяжкай засаўкай на ўваходных дзвярах мерай свабоды робіцца пашчыпванне марозу ў носе, мерай шчасця — магчымасць ісці ў любы бок, на свой густ» (314). Але з-за сюжэтнай

сітуацыйнасці чытацкае адчуванне, што гераіня атрымала тое, што доўга шукала, знікае. А застаюцца толькі ўражанні ад дзеянняў добра выхаванага чалавека.

У канцы рамана Яся едзе з хлопчыкам, якога пакінула маці, у пазіку, гладзіць яго па галаве і расказвае пра Мора Яснасці і Мора Спакою, Возера Радасці і Возера Снення. «Органы ўспрымання чалавека, адказныя за чаканне калі не шчасця, хоць праблiскаў вышэйшага сэнсу, наладжаныя нагэтулькі чуйна, што заўважаць самы дробны фальш. Вось жа, каб кантакт атрымаўся, трэба самой да канца паверыць у сітуацыю, якую ствараеш. А таму важна перастаць яе ствараць, а папросту жыць у ёй» (183). Яся часта змяняе месца існавання. Гэта можна параўнаць з нявызначанасцю чалавека, які толькі выйшаў з цягніка. А можна аднесці да бясконцых спроб знайсці прытулак. Трэба адзначыць, што ўсе змены прасякнуты жаданнем дабрацца да Возера Радасці, а можа марай, якая «жыве абяцаннем перастаць быць марай» (17). Што мы ўжо даведваемся на першых старонках рамана.

Пры гэтым кожная новая прастора мае сваіх «ратавальнікаў» (звычайна людзі або рэчы), якія так і застаюцца на месцы. У Мінску — бацькава сумка для гольфа, Косцік і тата; у Малмыгах — ровар, Віктар Паўлавіч і Валька; у Маскве — парасон, Рустэм і Вічка; у Вільні — ласунак, «рыбка» і Саша. Пасля — зноў Мінск… Выбіваецца ў рамане і тое, што ўсё, у што пачынала верыць Яся, пераставала існаваць. Дрэва, на якім пішуць жаданні, ссякаюць і спальваюць; ровар — ламаецца; праца «менеджарам эмоцый» пераходзіць у алкагольную залежнасць; «казачных» адносін з выратавальнікам Рустэмам не атрымліваецца; бюджэтнае навучанне ператвараецца ў высылку з дзяржавы; ад цяжарнасці застаецца толькі пытанне па страхоўцы. Марціновіч не дае выйсця.

Адзінае, што застаецца гераіні, — вобраз хлопца, які расказаў пра Возера Радасці, які вяртаецца ў жыццё Ясі ў Малмыгах і Маскве і сыходзіць, калі яна губляе «рыбку». Надзею, якая не спраўдзіцца, Яся і перадае хлопчыку з пазіка.

Можна сказаць, што сюжэт «Возера Радасці» зацыклены, але аўтар называе гэта «тэорыяй вечнага вяртання» і сам жа апраўдвае і тлумачыць вартасць выкарыстання такога прыёму ў рамане: «тэорыя вечнага вяртання надае жыццю важнасць. Кожны здзейснены намі ўчынак, кожнае слова — нешта значыць» (197—198). А атрыманне жыццёвага вопыту гераіні праз назіранні за ўчынкамі іншых і іх павярхоўнага аналізу можна цытаваць так: «Чалавека стварае кожны новы перажыты чалавек» (208). І такія канцэнтраваныя тлумачэнні можна знайсці ў тэксце без цяжкасцей. Напрыклад, пра адносіны Ясі і Рустэма: «блізасць зусім не вымяраецца часам, праведзеным за размовай. Або персаналізацыяй рэплік, якімі абменьваюцца суразмоўцы» (195). Праўда, да самога выказвання некалькі дзясяткаў старонак распавядаюць тое самае. Адно можа апраўдаць такі падыход — думкі падаюцца ў якасці асабіста сфармуляваных высноў Ясі, быццам бы яна да іх прыйшла пасля «новага перажытага чалавека». Напэўна, такім чынам паказваецца, як эвалюцыянуюць чалавек і яго ўспрыманне свету. Пры гэтым за сюжэтнай стракатасцю немагчыма адшукаць ідэю рамана, яго сэнсавае развіццё, ацаніць стыль пісьменніка і вобразнасць яго мовы.

А вось навошта аўтару даваць адказы на яшчэ не сфарміраваныя (а яны могуць фарміравацца толькі калі для гэта ёсць падставы) у чытача пытанні, напэўна, так і застанецца без тлумачэння. Але не здзіўлюся, калі ў «Возеры Радасці» і на такую думку знойдзецца свая цытата. Атрымліваецца, што ў чытача адсутнічае магчымасць дачытаць з зацікаўленасцю, паразважаць, задаць сабе пытанні. Таму і пішу, што радасці няма…

Юля Ваўчок

# Дзённік як трэнажор



Не так даўно злавіў сябе на думцы, што ўжо тры гады запар вяду дзённік. З таго самага часу, як пачаў больш-менш актыўна друкавацца. Зазвычай занатоўваю ў ім найбольш важныя для сябе моманты: дзе быў, што бачыў, што напісаў, з кім сустракаўся. Каб не забыцца…

Пераглядаючы ўжо напісанае, заўважыў, як істотна змяніліся стыль і манера пісьма: ад кароткіх малазмястоўных допісаў, якія наўрад ці будуць каму-небудзь цікавыя, да вялікіх і падрабязных тэкстаў, якія, у прынцыпе, калі іх упарадкаваць, можна смела аддаваць у друк. Але рабіць гэтага, прынамсі цяпер, я не збіраюся — наўрад ці каго-небудзь зацікавяць прыватныя рэчы з жыцця простага чалавека. Але я разумею, што менавіта дзякуючы дзённіку я вырас прафесійна. І гэтым досведам хачу падзяліцца з вамі. Хоць, безумоўна, я не адзіны такі.

Сам па сабе дзённік як літаратурная форма нарадзіўся вельмі даўно. Можна меркаваць, што акурат тады, калі чалавецтва атрымала пісьменнасць. Чалавек заўжды імкнуўся адлюстраваць сваё жыццё і перадаць нашчадкам свой досвед. Нешта мо і прыпісаць — сабе ці свайму народу. Напрыклад, зрабіць мінулае больш гераічным. Узяць хоць бы старажытныя летапісы…

З часам вядзенне дзённіка стала прэрагатывай вышэйшых саслоўяў, розных дваран, чыноўнікаў, афіцэраў. Простым сялянам было не да дзённікаў. Дзякуючы гэтым запіскам мы можам вывучаць гісторыю паўсядзённасці з розных бакоў,

пад рознымі ракурсамі. Спрабаваць асэнсаваць, накладаючы напісанае асобным чалавекам на глабальныя працэсы гісторыі.

Узяць хоць бы паўстанне Кастуся Каліноўскага. Захаваліся мемуары як непасрэдных удзельнікаў, так і тых, хто займаўся яго падаўленнем. І там і там ахвотны можа знайсці багаты факталагічны матэрыял. Можна павучыцца пісаць самому, а можна знайсці нешта для твора — калі ёсць жаданне пісаць пра тую слаўную эпоху.

Натуральна, што запісы простых людзей не такія цікавыя, як запісы публічных асоб. Але ўсе мы, прынамсі большасць з нас, нараджаемся ў самых звычайных сем'ях. І кожны мае шанц стаць вядомым. Як гэта зрабіць? Як дабіцца поспеху? За што варта брацца, якіх памылак не трэба дапускаць? Адказы на ўсе пытанні можна знайсці ў ранніх дзённіках вядомых пісьменнікаў і паэтаў.

Узорнымі ў гэтым плане мне бачацца дзённікі Максіма Танка, апублікаваныя ў 9 і 10 тамах поўнага збору твораў паэта. Іх можна адшукаць без праблем у сталічных кнігарнях. У сваіх запісах Максім Танк паўстае ў розных абліччах: і простага віленскага хлопца, і рэвалюцыянера, і вандроўніка, і літаратара, і дзяржаўнага дзеяча. А на іх старонках сустракаюцца знакавыя фігуры не толькі беларускай або савецкай гісторыі, але і сусветнай. Ну хоць бы Фідэль Кастра — асоба сапраўды легендарная.

Дзённікі Максіма Танка пачыналі публікаваць пры яго жыцці. Найбольш вядомыя — «Лісткі календара», прысвечаныя галоўным чынам яго жыццю ў міжваеннай Вільні. Яны вытрымалі некалькі выданняў і перакладаліся на рускую ды польскую мовы. Гэта бадай лепшае, што было напісана беларусам пра сталіцу былога Вялікага Княства ў перыяд паміж сусветнымі войнамі. Каб пераканацца ў гэтым, паспрабуйце прачытаць гэтую невялікую кнігу.

**Такім чынам, весці дзённік карысна з некалькіх прычын:**

— вы зможаце назаўжды захаваць дэталі. Добрая памяць — гэта добра, а занатаваная канкрэтыка — яшчэ лепш! Уявіце, што ў будучыні вы захочаце напісаць твор пра свае дзяцінства або маладосць. Аднавіць эпоху будзе прасцей па дзённіку, чым без яго;

— пракачаеце ўзровень уласнага майстэрства. Дастаткова некалькі хвілін траціць штодня на яго, каб з цягам часу гэтая справа пачала прыносіць не толькі асалоду, але і дывідэнды — вы гарантавана станеце пісаць лепш. Па гэтым прынцыпе працуюць спартоўцы, якія рэгулярна ходзяць у трэнажорны зал, каб трымаць цела ў форме. Рэжым — аснова ўсяго. І літаратура не выключэнне!

— будзеце мець гатовы твор. Незаўважна самі для сябе напішаце кнігу ў стылі нон-фікшн, які цяпер з'яўляецца адным з найбольш папулярных і запатрабаваных у свеце. Прыйдзе час, і для вашай кнігі знойдзецца выдавец.

Яскравы прыклад спалучэння ўсіх трох прычын — кніга Ніла Гілевіча «У віры быцця», якая пабачыла свет у 2015 годзе ў выдавецтве «Кнігазбор». Аўтар сабраў свае запісы розных гадоў, прысвечаныя самым розным справам. І атрымаўся гэты дзённікавы збор. Зусім нядрэнны.

Хто ведае, кім станеце вы і што напішаце праз 10, 20, 30 гадоў? Не марудзьце! Пачынайце пісаць! Ужо сёння!

Канстанцін Касяк

# Гукавы гвалт ад сваіх

**Музычная культура Беларусі падсумоўвае свае здабыткі. Мы падабралі тры важныя з'явы і прапануем пражыць тры эмацыянальныя трансы. Энтузіязм — пасыл шчырасці ды энергіі ад Re1ikt. Рашучасць — ад надрыўнага альбома NGe. Згубленасць — ад складанага і рэфлексіўнага праекта Essa.**

## Энтузіязм

Гурт Re1ikt выдаў пяты поўнафарматны альбом «Kufar». Выданне стала вынікам надзвычай паспяховай краўдфандынгавай кампаніі. Працэс стварэння і запісу адбываўся ў Studio-X у Ольштыне (Польшча).




Канцэптуальна альбом працягвае папярэдні — «Лекавыя травы». Тым не менш жыватворная глеба, якую абралі музыкі (народны субстрат), можа паспяхова ўзгадаваць яшчэ не адзін альбом. Слухаючы дыск, першай справай сутыкаешся з крутым тэхнічным выкананнем і пераконваешся ў майстэрстве музыкаў. Перацягвае на сябе ўвагу гітара — майстра ігры (Віталь Макшун) варта адзначыць як адмыслоўца. Цягам запісу слухачу нібы націскаюць на два цэнтры задавальнення адразу: з аднаго боку — кайф ад годнага прагрэсіў-рока, з другога — ад хтанічнай аўтэнтыкі.

Кампазіцыя «Сваточкі» злучыла прагрэсіў з народным спевам. Паміж гэтымі палярнымі з'явамі знайшліся-такі тоесныя формы — цягучыя мелізмы вакальнай фігуры рыфмуюцца з гітарным рыфам.

Кампазіцыя «Навальніца» выклікае найперш думкі-рэфлексіі. Песня патрыятычная, з высокай верагоднасцю — хіт. Тэкст складаюць пейзажныя замалёўкі апакаліптычнай эстэтыкі. На іх фоне згадваецца адвечны лёс беларусаў, матывы ініцыяцыі і ахвярнасці. «Дробненькі дожджык» — кранальная рамантыка ў лепшай сваёй праяве, і, як заўжды, моцны вакал Уладзя Казлова адкрывае напластаванні містычных сэнсаў фальклору.

У «Kufarы», як у змесціве каштоўнага майна, знайшлося месца і гімну футбольнай каманды «Крумкачы». Песня не дысануе з канцэпцыяй, а толькі дадае альбому неабходны драйв. Парадавала інструментальная эўрыстычнасць — у кампазіцыі «Толькі снег» з'яўляецца саксафон, што сэнсава і стылістычна ўзбагачае альбом.

Ну, смачны кавалак для апантаных палескай багнай прыхаваны ў канцы: абсалютна хітовая «Вылэтай». Проста 4,5 хвіліны геніяльнай апрацоўкі народнай мелодыкі і магутны мужчынскі вакал. Менавіта ён робіць народную паэтыку пераканаўчай, і яна стае і мантрай, і плачам, і гімнам.

Агулам альбом як мінімум не саступае па яркасці выдадзенаму год таму. Афармленне зноў канцэптуальнае: ілюстрацыя Галіны Аксаміт, мастачкі, якая займаецца народным жывапісам, і дызайн яе сына Андрэя Аксаміта. Простае і геніяльнае схавана ў функцыянальным аспекце: дыск адчыняецца не як «кніжка», а як «куфар» — вечка падымаецца ўверх.

## Рашучасць




Гурт NGe дэбютаваў з альбомам «Мы». Запіс адбываўся на ўласнай студыі музыкаў на працягу года. У назве музыкі падкрэсліваюць, што плён працы сапраўды супольны і важны для кожнага з удзельнікаў.

Стылістычна альбом разнастайны. Паводле слоў саміх музыкаў, стварэнне першага поўнафарматнага альбома стала вызначыла гучанне NGe. Электронны і рокавы складнікі прыкладна ўраўнаважаны, але рокавы працуе хутчэй як сродак выразнасці: гітары і бубны бяруць на сябе неабходную эмацыянальнасць.

З першай песні цешыць добры электронны біт. Дасціпны жаночы вакал расстаўляе кропкі над «і», кампазіцыя гучыць даведзеным да ладу музычным прадуктам. Кантрастуе з папярэдняй кампазіцыяй песня «Зіма» — традыцыйны індзі-рок служыць фонам для магутнага эмацыянальнага пасылу. Песня мае выразную кампазіцыю — хвалепадобна нарастаюць рытм і колькасць задзейнічаных інструментаў. Тэкставы складнік амбітны, але не пераканаўчы. «Маятнік» — прэзентуе аўтарскія рэфлексіі: няясна, ці вакалістка звяртаецца да слухача, ці да экс-бойфрэнда. Адносна тэкставага складніка музыка відавочна другасная.

Тэкстам не заміналі б больш арыгінальныя метафары, тым не менш час ад часу размова ідзе пра простыя, але важныя рэчы. Напрыклад, аўтарка закранае тэму межаў чалавечнасці і легітымацыі жорсткасці. Навошта на дыск змяшчаць песні з падобнымі назвамі — «Маятнік» і «Маяк» — невядома. Але «Маяк» акурат адзначаны юнацкім драйвам і вясёлымі сэмпламі.

«Прыгажосць» — патэтычная песня для опэн-эйра, таму аранжыроўка магла быць куды хітовейшай. Патэнцыял песні пакуль не выяўлены. Верагодна, кампазіцыя чакае сваёй прэзентацыі перад шматлікай публікай.

## Згубленасць




Пабачыў свет альбом праекта «Essa». Удзельнікі — Вольга Дзядоўнік і Тодар Кашкурэвіч. Месца дыслакацыі — Ракаў. Багаты арсенал традыцыйных інструментаў (частка з якіх зроблена спадаром Тодарам) музыкі дапаўняюць авангарднымі (знойдзенымі выпадкова). Назва альбома — «Няміга». Слова балцкага паходжання, абазначае «бяссонне».

Стылістычна альбом сягае адначасова і фолка, і пост-індастрыяла. Атмасфернае афармленне надзвычай пераканаўчае: ты нібы едзеш у метро, у цьмяным электрычным сутонні, чуеш будзённы голас дыктара: «Наступная станцыя — «Няміга». А пасля цягнік губляецца ў часе і прасторы, са столі капае вада, туман зацягвае вочы, вушы пранізвае рэзкі голас Вольгі. У варожай прасторы, якая нарадзілася з індустрыяльнага лона — тунэля метро, ты сінхранізуешся з рытмамі ўдарных іназіраеш, як у табе прачынаецца дзікі чалавек. Першая частка альбома гучыць больш за 31 хвіліну.

Разнастайнасць перкусій, мінімалістычныя струнныя і духавыя. Няўлоўныя авангардныя рытмы выпадковых памераў. Літоўская мова, працятая жалейкай, закальцаваныя песні без пачатку і канца. Усё зроблена, каб слухач увайшоў у свой персанальны транс.

Дыск мае моцны авангардысцкі ўхіл. Псіхадэлічныя ноткі павязваюць між сабой вясковую і індустрыяльную вобразнасць: ад рыпу драўлянай брамы да тахкання станка. У альбоме ёсць песні-гульні, весялосць якіх можна аднесці хіба што да вар'яцкай. Некалькі народных песень з нечаканым, але аўтэнтычным гучаннем змешчаны ў сетку альбома. Такая амбівалентнасць — моцны бок. Слухач увесь час боўтаецца між эўрыстычнай навізной і старажытнасцю. Важным мастацкім сродкам служыць вобразны шэраг: травухна, якая не косіцца — не грабецца, зямелька, з якой трэба размаўляць, калодзеж.

Уражваюць неакадэмічная спевы: зрыванне на хрыпоту, задыханне, відавочная адсылка да абрадных спеваў. Рытуальны плач Вольгі афарбаваны адчаем.

Саксафон, які нахабна ўрываецца у музычны малюнак песні «Калыханка», пераносіць народныя матывы ў элітарную плоскасць, шчымлівым і вольным блюзам высцілаючы шлях для простых цымбальных гукаў. Калыханка — песня надзеі, тут праз саксафон акурат і адкрываецца выхад з невараці.

Выдатная апошняя кампазіцыя — «Жыў-быў, ды няма». Арган дапаўняецца глухімі ўдарнымі. Абыякавы да героя песні некралог гучыць як лічылка, а сюжэт песні ілюструе апафеоз бессэнсоўнасці.

Для вокладкі выкарыстаны афорт Арлена Кашкурэвіча — класіка беларускай графікі. Сур'ёзнае музычнае выданне ўдала дапаўняецца творам выяўленчага мастацтва: на выяве жанчына з дзіцем на фоне разбуранага індустрыяльнага пейзажу.

Даніла Каўтун

У выпуску:



Я — МАСТАК № 12

Я ведаю мастацтва

# Не пейзаж



Фердынанд Рушчыц стварыў мноства пейзажных палотнаў, але вядомы ў свеце найперш як сімваліст. Як стала магчымым трансфармаваць мову прыроды ў мову сімвалаў, калі мастак пісаў толькі рэалістычныя сюжэты? Што хаваецца за знаёмымі матывамі? Разгледзім палатно «Старыя яблыні», напісанае ў 1900 годзе.

Стылістычна карціна выглядае творам свайго часу — тады акурат панаваў мадэрн з яго выкшталцонай пластыкай.

У 1929 годзе польскі сенат набыў «Старыя яблыні» для сваёй парараднай залы. Але цяпер яны належаць Варшаўскаму нацыянальнаму музею. Увогуле, у нашым Нацыянальным мастацкім можна ўбачыць толькі адзін твор мастака Рушчыца — «Каля касцёла».

«Старыя яблыні» маглі быць трыпціхам: мастак спачатку захацеў намаляваць іх, адны і тыя ж, у антуражах трох пор года, у розны час сутак і пры розных станах надвор'я: вясновыя, квітнеючыя — на фоне заходу сонца; у цёмнай лістоце, з пладамі — у пахмурны ліпеньскі дзень; зімовыя, «голыя» — на фоне снегу пры асляпляльным сонцы. «Ніводзін матыў не пераследаваў мяне так, як гэтыя яблыні, — пісаў Фердынанд Рушчыц у дзённіку. — Паўсюль яны мне мрояцца, усё набывае выгляд яблыкаў, нават літары, калі спрабую чытаць». Ад вясны да восені 1900 года мастак вымотваў сябе пакутлівымі спробамі дасягнуць пастаўленай перад сабой мэты, але трыпціх не атрымаўся. І нават ніводны варыянт яго не выйшаў. А выйшла іншае — прадчуванне нядобрага, катастрофы.

Гама палатна бліжэй да поліхраматычнай графікі, чым да жывапісу. Кідаецца ў вочы ўмоўнасць колераў. Зялёныя — максімальна адкрытыя і чыстыя, непрыглушаныя. Апазіцыю зялёным стварае ліловая плоскасць шатаў. Карціна разбіваецца на самастойныя плоскасці колеру. Далягляд ненатуральна цьмяны, ён нібы сыходзіць у нішто, каб вылучыць бліжні план. Такі прыём дае твору дэкаратыўнасць. Карціна магла б стаць асновай для сцэнічных дэкарацый (варта згадаць, што Рушчыц значную частку свайго жыцця прысвяціў тэатру, у прыватнасці — сцэнаграфіі). Кампазіцыя палатна пабудавана на лінеарнасці. Пластыка ствалоў дрэў утрымлівае і кульмінацыю, і дамінанту.

Выклікае цікавасць «рэжысура святла» ў палатне. Сонца змагло прабіцца толькі да малога лапіка зямлі праз суцэльнае покрыва іголак. Карычневыя колеры таксама адкрытыя і чыстыя. Зямля выглядае свежай, нядаўна ўскапанай, што дадае палатну рэалістычнасці. Мы бачым яблыневы сад у канкрэтны момант часу. Эфект узмацняецца святлом. Няясна, якая пара года на палатне. Пышная зялёная трава і ўскапаная зямля кажуць, што гэта або ранняя восень, або позняя вясна, або лета. Шаты без лістоты ўказваюць, што сезон халодны. Насамрэч, Рушчыц хавае для нас здагадку: старыя яблыні — мёртвыя. Яны выглядаюць хутчэй фантастычна, чым натуральна. Пластыка ствалоў не раслінная, а водарасцевая. Прастора нібы напоўнена вадой. Ствалы пазбаўлены хоць-якога жыцця, яны нават не маюць кары. Трывожна пазірае на нас адтуліна ямы — матыў пахавання.

Ёсць меркаванне, што «Старыя яблыні», як ні парадаксальна, маглі б служыць дэкарацыяй да «Вішнёвага саду», які быў напісаны Чэхавым усяго на тры гады пазней і пастаўлены ў Маскоўскім мастацкім тэатры ў пачатку 1904 года.

Палатно «Старыя яблыні» адзначана эмацыянальнай выразнасцю. Гледача закранае шчымлівы сум, якім вее ад безжыццёвасці саду. Не пейзаж, а вусцішны аповед, напісаны Фердынандам Рушчыцам.

Алеся Галота

# Каця Дубовік: «Не магу не маляваць»

**Кацярына Дубовік — адзін з яркіх беларускіх ілюстратараў. Яе аўтарству належыць афармленне кніг «Як Васіль цмока адужаў» (беларуская народная казка), «Сем ружаў» Надзеі Ясмінскай, «Казкі» Вільгельма Гаўфа. Самабытная пластычная мова, захапляльнае выяўленне сюжэтаў, запамінальная каларыстыка, адухаўленне кожнага з персанажаў, стварэнне дзясяткаў новых фантастычных сусветаў — плён яе працы.**

**— Калі пачаў фарміравацца твой пазнавальны стыль?**

— Цяжка сказаць, але пачынаючы з чацвёртага курса акадэміі мастацтваў я пачала прыкладна разумець, у якім напрамку хачу рухацца. Напэўна, тады мой стыль і пачаў фарміравацца.

**— Як лічыш, ці адлюстроўвае твая творчасць свой час?**

— Шчыра — не ведаю як адказаць на гэтае пытанне. Звычайна прынята лічыць, што мастацтва, якое адлюстроўвае свой час, падабаецца большасці і зразумелае ёй. Я не магу сказаць, што мае работы атрымліваюць менавіта такі водгук. Таму пра тое, адлюстроўваюць мае работы сучаснасць ці не, трэба будзе пытацца ў мяне праз гадоў пяцьдзясят.








**— Ці бачыш ты свае ілюстрацыі ў анімацыі?**

— Безумоўна. Калі я распрацоўваю ілюстрацыі, я заўсёды ўяўляю, як мае персанажы рухаюцца, як яны гавораць. Я ўвогуле вельмі люблю глядзець добрыя мультыплікацыйныя фільмы — яны мяне натхняюць.

**— У якой сферы дзейнасці ты магла б гэтак жа рэалізавацца, як у мастацтве?**

— Я спрабавала сябе апрача мастацкай толькі ў настаўніцкай сферы. Не магу сказаць, што ў мяне не атрымлівалася ці што я неяк зусім жахліва пачувалася. Але такога ж задавальнення, як ад працы з кнігай ці проста малявання, я не атрымлівала. Я не магу не маляваць, таму іншыя сферы дзейнасці, напэўна, не для мяне.

**— З якім з твораў, ілюстраваных табой, адбыўся найбольшы рэзананс — уражанне, канфлікт, адкрыццё?**

— Для мяне такіх твораў было шмат. Калі пачынаю працаваць над новым творам, заўсёды намагаюся неяк прасунуцца наперад адносна таго, што рабіла раней. Некаторыя творы, з якімі я працавала, такія як, напрыклад, «Шахматная навела» С. Цвейга, «Казкі» В. Гаўфа ці «Скрозь люстэрка, і што ўбачыла там Аліса» Л. Кэрала, проста не пакідаюць шанцу застацца такім, якім ты быў да сустрэчы з імі.

**— У тваім багажы ёсць цудоўныя ілюстрацыі да беларускай казкі «Як Васіль цмока адужаў». Што для цябе значыць працаваць з фальклорам радзімы?**

— Працаваць з родным фальклорам — гэта заўсёды і складана, і цікава адначасова. Складана, таму што трэба зламаць у сабе навязаныя за многія гады стэрэатыпы, звязаныя з беларускай культурай, зрабіць новае і нечаканае. А цікава і прыемна, бо для мяне такая праца заўсёды звязана з уражаннямі дзяцінства, вельмі дарагімі для мяне, як і для кожнага чалавека.

**— Ты працавала і з беларускімі казкамі, і казкамі іншых народаў, і з класічнай літаратурай. Ці можна сказаць, што нейкія мастацкія прыёмы працуюць толькі з беларускім матэрыялам?**

— Зразумела, культура краіны дыктуе «асяроддзе» і дэталі, якія я выкарыстоўваю ў сваіх работах, але гэта не ўплывае на мастацкі прыём. Ён хутчэй залежыць ад стылістыкі, сюжэта, манеры і часу, калі быў напісаны літаратурны твор.



**— Ты выглядаеш цэльнай асобай, творчы стыль якой арганічна сфарміраваўся з часам. Але ці былі пераломныя моманты, сумневы, перашкоды з боку адукацыйнага курса Акадэміі мастацтваў?**

— Сумневы і пераломныя моманты, безумоўна, былі. Сумневы ёсць і цяпер. Гэта, на мой погляд, нармальна — ставіцца крытычна да сябе і сваёй працы. Але я не магу сказаць, што Акадэмія мастацтваў мне неяк перашкаджала. Я ўвогуле не аматар вінаваціць кагосьці ці штосьці ў тым, што ў мяне нешта не атрымліваецца. Калі не атрымліваецца ці не падабаецца, трэба перарабіць. Урэшце — гэта твая праца, і адказны за яе толькі ты. Таму я лічу, што калі творчыя планы ёсць, нішто не можа ім замінаць, хіба толькі недахоп часу. Але нават і гэта можа толькі затармазіць ажыццяўленне творчых планаў, але не спыніць яго.

**— Калі б трэба было праілюстраваць творы накшталт «Адысеі» ці «Бравага салдата Швейка», ці шукала б ты для гэтага новую пластычную мову?**

— Безумоўна — навошта рабіць нешта, калі не шукаеш у гэтым новае для сябе? У кожнага мастака свой погляд на адну і тую ж рэч — гэта ўсім вядома. Справа тут не ў тым, каб проста неяк даць зразумець, што ты не такі як усе, а ў тым, каб застацца сабой.

Алеся Галота

# Паветраная перспектыва

**Па-майстэрску напісаць далячынь пейзажу, паказаць гарызонт максімальна далёкім, намаляваць аб'ёмны прадмет без выкарыстання тону.**

## Знаёмімся з чарговым выяўленчым інструментам

Мы навучыліся карыстацца лінейнай перспектывай для рэалістычнага выяўлення прадметаў у прасторы. Але малюнак не будзе паўнавартасным без паветранай перспектывы. Што гэта такое?

Паветраная перспектыва — скажэнне колераў і рэзкасці абрысаў прадметаў у залежнасці ад адлегласці. Прычынай такога скажэння з'яўляецца напоўненасць паветра парай, пылам ды іншымі складнікамі. Паветра не з'яўляецца празрыстым, само па сабе яно мае колер і структуру. Чым больш паветра знаходзіцца паміж гледачом і прадметам, тым больш скажоным будзе аб'ект. Абрысы становяцца мякчэйшымі, размытымі. Паветраная перспектыва ўплывае на колеры. Ты не раз заўважаў, што далягляды нібы схаваныя ў сінюю дымку — так выглядае лес, поле або гарадскія пабудовы на гарызонце. На ўсе колеры накладваецца сіняе адценне: і на цёплыя, і на халодныя. Напрыклад, калі два ярка-аранжавыя шары памясціць адзін перад гледачом, а другі — на адлегласць 200 метраў, то шар, які знаходзіцца далей, будзе выглядаць нашмат больш бляклым за той, што бліжэй. Аранжавы колер стане бліжэйшым да ружовага.

Калі два ярка-аранжавыя шары памясціць адзін перад гледачом, а другі — на адлегласць 200 метраў, то шар, які знаходзіцца далей, будзе выглядаць нашмат больш бляклым за той, што бліжэй



Прыклад выкарыстання паветранай перспектывы ў пейзажы В. Бялыніцкага-Бірулі. Цёмныя ствалы бяроз кантрастуюць з ліловай палоскай на гарызонце.



Паветраная перспектыва ў маляванні гіпсавай галавы: лініі бліжняга плана і цені ярчэйшыя за лініі дальняга плана, якія амаль знікаюць.

Калі карыстацца паветранай перспектывай у маляванні аб'ёмных прадметаў ці нават партрэта, яна дапаможа намаляваць аб'ект рэалістычным.

Найбольш відавочная паветраная перспектыва ў пейзажы. Ты можаш спраўдзіць яе наяўнасць, проста выглянуўшы на вуліцу. Але карыстацца прынцыпамі паветранай перспектывы варта і ў нацюрморце, і ў інтэр'еры, і ў партрэце. Чалавечаму воку не бачна скажэнне колераў і абрысаў, скажам, у памяшканні. Але, наўмысна выяўляючы скажэнне, ты можаш выразна паказаць размяшчэнне аб'ектаў у прасторы.

Калі карыстацца паветранай перспектывай у маляванні аб'ёмных прадметаў ці нават партрэта, яна дапаможа намаляваць аб'ект рэалістычным. Пры гэтым выкарыстанне тону не абавязковае, ліній і паветранай перспектывы будзе дастаткова.

Выкарыстанне паветранай перспектывы ў комплексе з іншымі выяўленчымі сродкамі (лінейнай перспектывай, святла-тонавай мадэліроўкай, колерам) дазволіць зрабіць выяву максімальна блізкай да натуры.



Паветраная перспектыва на палатне А. Куінджы. Горад, які мы бачым на даляглядзе, напісаны лёгкімі шызымі тонамі.

# Лісты да хрэсніка








Прывітанне, дарагі мой хрэснік!

У нас ужо з лістапада ўсе крамы ўпрыгожаны цацкамі і мішурой, усе вітрыны крычаць: «З Калядамі! З Новым годам!», заклікаючы пакаштаваць, паспрабаваць, памераць, набыць. Вось і я атрымала пенсію і паехала на пошту, каб набыць калядныя паштоўкі. Набыла і задумалася: а як падпісаць? Як звычайна: «Віншую цябе з Калядамі, жадаю шчасця, здароўя»? А ці трэба гэтага жадаць?

Наколькі часта людзі ў шчасці забываюць пра Бога, выхваляюцца: «Я сам усяго ў жыцці дасягнуў», а ў няшчасці — звяртаюцца па дапамогу да Бога, просяць ратунку ў Яго. Тады што карысней для душы? Шчасце ці ўсё ж няшчасце?

Канечне, усе мы жадаем шчасця сабе і блізкім. Але як часта, прагнучы яго, робімся падобнымі на альпіністаў. Яны рвуцца наверх, караскаюцца з усёй моцы, а калі жаданая вяршыня пад нагамі і «ўвесь свет на далоні», тады за хвілінамі захаплення адчуваюць стомленасць і пустату. А пасля — прагу новага — заваявання, набытку. Бясконцая гонка за ценем, прывідам.

Калі мы шукаем зямнога шчасця, і яно надыходзіць, з ім з’яўляецца і трывога: «Шчасця не можа быць шмат, яно хутка пройдзе». Правільна, пройдзе, як усё зямное. Таму і трэба шукаць сваё шчасце не ў зямным, а ў вечным.

Калі чалавеку бачыцца яго шчасце ў матэрыяльным свеце, у авалодванні рэчамі, дык ён будзе заўсёды няшчасны, нават калі першы айфон памяняецца на другі, другі на трэці, пяты, дзясяты, старэнькія «Жыгулі» на новенькі «Мерсэдэс», пакойчык у інтэрнаце на катэдж ці палац… Усё гэта добра, але ці ў гэтым шчасце? Нехта адкажа: «Так» — і будзе караскацца да вяршыні славы, поспеху, улады. Нехта, здаволіўшыся матэрыяльным, стаміўшыся ганяцца за ценем, задумаецца: «Чаму ўсё ёсць, жыццё — поўная чаша, а паўнаты шчасця няма?» Задумаецца і скажа: «Стоп!» А там мо аднойчы і зразумее, што паўната шчасця бывае толькі з Богам. З Ім у сэрцы пануюць любоў, мір і спакой. А навошта, мой залаты, непакоіцца таму, хто цвёрда ведае, што яго здароўе, шчасце і само жыццё — у руках Божых? Бог лепш за нас ведае, што нам патрэбна і будзе карысным.




Таму і пажадаю табе не шчасця або здароўя, а чуласці. Будзь чулым і ўважлівым, слухай Яго, наблізь свае вуха да Яго вуснаў, бо часцей за ўсё Бог размаўляе шэптам. Стань да Яго бліжэй.

Для гэтага існуе час посту — пара ўстрымання і моцных малітваў. Праз пост чалавек набліжаецца да Бога.

Што пажадаць табе, мой анёл? Папрацуй падчас посту. Павер, што ёсць асаблівая радасць у стрымліванні дзеля Хрыста, цялесным і духоўным. Не вер майму слову — правер на сабе! Хіба навагоднія гулянні, начныя аб'яданні, бясконцыя тэлешоу набліжаюць да Бога? Гэтыя мітусня і марнатраўства толькі спустошваюць душы і кашалькі. А стрымліванне, наадварот, — зберажэ сямейны бюджэт. І добрыя хрысціяне пусцяць гэтыя сродкі на падарункі блізкім, на дапамогу тым, хто мае патрэбу.

Што такое ўстрыманне духоўнае? Пачні з малога: адмоўся на час посту ад забаў (тэлевізара, камп'ютара, кантактаў у сацсетках). Сыдзі ў свой свет, дзе Бог і ты. Закрый дзверы сваёй душы для чужых, размаўляй з Богам, вучыся ў Яго, пытайся ў Яго, чакай адказу. Хоць бы паўгадзіны ў дзень, хоць бы ў тыя дні посту, што засталіся. Адчуй Нараджэнне Хрыстова сэрцам. Зразумей таямніцу і веліч Богаўвасаблення. Колькі пытанняў узнікне тады!

Навошта Бог паслаў на Зямлю Сына?

Чаму безабаронным Немаўляткам з'явіўся Ратавальнік свету?

Чаму Нараджэнне Яго адбылося ў цішы Віфлеема?

Чаму ўзрастанне ішло аддалена ад Назарэта?

Чаму менавіта тады, пры страшным Ірадзе, а не ў часы Давіда ці Саламона?

Чаму ўвесь горад спаў, і месца Святому Сямейству ў гасцініцы не знайшлося, і ніводныя дзверы не расчыніліся перад Дзевай Марыяй і Іосіфам Абручнікам?

Чаму менавіта вешчуны і пастушкі прыйшлі пакланіцца народжанаму Хрысту Збавіцелю?

Якія дары яны прынеслі?

Адказы ты знойдзеш у тлумачэннях святых айцоў, ды і на занятках нядзельнай школкі ўсё гэта вы, пэўна, абмяркуеце.

Але галоўнае пытанне: дзе ж у Каляднай гісторыі мы з табой?

Я задаю сабе такія пытанні: «А дзе я, з кім? У спячым горадзе ці каля батлейкі з Боганемаўляткам? Якія дары магла прынесці і прынесла? І ці будзе час нешта паправіць?»

Час посту — час роздуму. Калі ён пройдзе ў духоўнай працы, тады радасць Нараджэння Хрыстова напоўніць душу. Тады і калядныя святы стануць святымі днямі для нас.

Няхай жа пост прынясе ўсім нам плады духу: любоў, міласэрнасць, веру, мір і пакору. Малюся, каб святло Хрыстова асвяціла нашы душы.

З любоўю
твая хросная

## Што такое шчасце?

Шчасце…
Што такое шчасце?
Шчасце нельга проста ўкрасці,
Ці пазычыць, ці купіць…
А без шчасця цяжка жыць!

Калі ж будзем не спяшацца,
Шчыра людзям усміхацца —
Вось тады і шчасце будзе!
Стануць добрымі ўсе людзі!

Шчасце для мяне… што гэта?
Шчасце ў дабрыні Сусвету?
Ці ў лагодзе родных твараў?
Ці калі аб шчасці мару?

Быць шчаслівым здольны кожны:
Той імкнецца ў падарожжы,
Гэты піша казкі, вершы…
Ну, а хтосьці ў спорце першы!

Шчасце — у кожнага сваё.
Дзе ж хаваецца маё?

Ліза Скальская,
6 клас, Заслаўская гімназія,
старшыня літаратурнага
клуба «Ізяслаўцы»




## Беларуская мова (Удзячная Богу)

Люблю цябе,
мілая, родная мова!
І кожны твой выраз,
і кожнае слова!

Цябе вывучаю,
удзячная Богу:
Ты — зорка, якая
асвеціць дарогу!

Вікторыя Валяватая,
8 клас, Заслаўская гімназія,
клуб «Ізяслаўцы»

## Падары «Бярозку» дзіцячаму дому!

Аўтар і хросная рубрыкі «Зярняткі веры» Ірына Клышэўская прапанавала дабрачынную акцыю пад такім дэвізам і пачала здзяйсняць яе ўласным прыкладам. «Была ўчора ў дзіцячым доме ў Радашковічах, — піша Ірына Анатольеўна ў рэдакцыю «Бярозкі». — Захапіла з сабой некалькі нумароў часопіса, піроржныя, цукеркі, арганізавалі ў бібліятэцы гарбату… Расказала пра пастаянныя рубрыкі і ад імя рэдакцыі падарыла падпіску на I паўгоддзе 2017-га».



А ты, дружа, хочаш зрабіць падарунак дзіцячаму дому? Да 20 студзеня можна аформіць падпіску на №№ 2—6 часопіса «Бярозка» і падарыць яе тым, каму зычыш святла і шчасця.

# Вандроўка ў мінулае

**«Бярозка» вырашыла прайсціся таемнымі мінскімі сцежкамі разам з праектам «Вандроўкі ў мінулае» і яго кіраўніком, экскурсаводам Паўлам Дзюсекавым. Маршрут «Легенды і гісторыі старога Менска» пачынаецца каля Чырвонага касцёла легендай пра яго будаўніцтва:**



Ля касцёла




Герб Мінска на касцёле

Жыў-быў спадар Эдвард Вайніловіч, і было ў яго двое дзяцей: дачка Алена і сын Сымон. Алена была мастачкай, Сымон хацеў стаць вайскоўцам. Аднойчы, калі яны дапамагалі хворым і бедным, захварэлі на грып, які тады называўся «іспанка». Лекар сказаў, што час, калі можна было б вылечыцца, прайшоў, і дапамагчы цяпер можа толькі Бог. У тую ж ноч явілася дзецям Маці Божая і сказала: «На жаль, не магу ўратаваць вас ад смерці, але магу зрабіць так, каб лягчэй жылося вашым бацькам пасля вашага сыходу». Паказала на далонях храм і сказала Алене намаляваць і пакінуць у якасці апошняга запавету бацькам. Алена ўсё выканала, а тым самым вечарам яны з братам памерлі. Іх бацькі, пахаваўшы сваіх дзетак, амаль усё сваё багацце ўклалі ў стварэнне гэтага касцёла. Пачалі яго будаваць у 1905 годзе, а 21 лістапада 1910 года касцёл быў урачыста кансэкраваны пад тытулам святых Сымона і Алены. Што за палёгка была бацькам, пра якую казала Маці Божая? На святы, калі яны прыходзілі сюды маліцца, укленчвалі перад алтаром, то на сваіх плячах адчувалі дотыкі крылаў анёлаў, у якіх ператварыліся іх дзеці пасля смерці. Сёння адзінае, што засталося ад месца пахавання дзяцей Вайніловічаў, — надмагільны камень Сымона, які можна пабачыць злева ад увахода ў касцёл.

Чырвоным яго празвалі за колер. Цэгла не мясцовая, прывезеная з горада Чанстахова (Польшча). Восем тысяч цаглінак спатрэбілася на тое, каб пабудаваць касцёл, і, каб цэгла не пабілася па дарозе і выдаткі сям'і на будаванне не павялічваліся, кожную з цаглінак загарнулі ў мяккую паперу. Над уваходам, дзе цяпер

герб Мінска, раней быў родавы герб Вайніловічаў, які называецца «Сыракомля». Вялікая вежа касцёла — сімвал смутку ўсіх бацькоў, якія згубілі сваіх дзяцей. Дзве маленькія — у гонар саміх Сымона і Алены.

Эдвард Вайніловіч памёр у Польшчы ў 1928 годзе і толькі ў 2006 годзе яго парэшткі былі перавезены на радзіму і тут спачываюць. 10 красавіка гэтага года ён быў абвешчаны бласлаўлёным — гэта першая прыступка да кананізацыі.



Надмагілле Вайніловіча

Побач стаіць Дом урада, які будавалі з 1930 па 1934 год. Калі пабудавалі, атрымалася дылема: Ленін каля касцёла. Храм вырашылі знесці, але падлічылі, што калі закласці дынаміт і зруйнаваць яго, побач «ляжа» і новая пабудова. Была спроба знесці касцёл у 1950-я гады, калі на яго месцы хацелі пабудаваць самы вялікі ў БССР панарамны кінатэатр на паўтары тысячы месцаў, але зноў храм уратаваў парадокс, а менавіта тое, што не дазволілі праект у Маскве, бо там самы вялікі кінатэатр быў на тысячу месцаў.

Канешне, у савецкія часы ў касцёла не магло не быць прыгод. Тут чаго толькі не было: і склад, і архіў кінафотадакументаў, і Польскі дзяржаўны тэатр БССР, потым — здымачная пляцоўка «Белдзяржкіно» (сённяшні «Беларусьфільм»).

Паколькі «Белдзяржкіно» славілася фільмамі пра вёску, гэтую вёску трэба было недзе здымаць, таму касцёл зрабілі двухпавярховым, выбілі ўверсе шкло, прымацавалі дзве рэйкі. Падвязвалі пад жывоцік каня ці карову, паднімалі на 2 паверх, рабілі з жывёлы зорку і спускалі назад. У 1979 годзе тут здымалі «Блакітны карбункул» — адну з частак савецкага серыяла пра Шэрлака Холмса. Калі будзеце глядзець, ведайце, што віктарыянская Англія нядрэнна пачувалася і тут, у Мінску. Касцёл вярнулі вернікам у 1991 годзе, з таго часу ён дзейнічае як храм, але з такой багатай не толькі духоўнай, але і свецкай гісторыяй.



Фантан



Музей кіно

Наступны аб’ект увагі — гатэль «Мінск» — у савецкія часы самая шыкоўная гасцініца Мінска. Павел паказвае фотаздымак Наталлі Гусевай, акцёркі, шмат каму вядомай па ролі Алісы Селязнёвай у фільме «Госця з будучыні».

Гэты серыял у свой час быў проста «бомбай»! Усе хлопчыкі марылі ажаніцца з «Алісай», не быў выключэннем і беларус Дзяніс Мурашкевіч. Праз 10 гадоў у газеце ён прачытаў, што Наталля Гусева прыехала здымацца на «Беларусьфільме» і пасялілася ў гасцініцы «Мінск». І тут пачынаецца спецаперацыя. Дзяніс і сябры ідуць раніцай у ГУМ, выпрошваюць вялікую каробку з-пад тэлевізара, саджаюць туды кавалера з кветкамі, на Галоўпаштамце абмотваюць стужкамі, ставяць штампы, надпісваюць «Ад фанатаў усёй БССР» і, спыняючы рух на цэнтральным праспекце горада, пераносяць каробку цераз дарогу, мінаючы адміністратара і ахову, пад самы нумар: «Вось вам падарунак, распішыцеся, забірайце». Як кажуць, смеласць гарады бярэ, таму менавіта такім чынам Наталля Гусева і знайшла сваё каханне і выйшла замуж. Дачку, праўда, назвалі не Алісай, а Алесяй.

Побач з Чырвоным касцёлам знаходзіцца другі ў гісторыі горада фантан. Аўтар яго — Анатоль Анікейчык. Кажуць, жыхары папрасілі для горада скульптуру «для душы», каб вока адпачывала. Аўтар запыт зразумеў па-свойму і вырашыў падарыць гораду, фактычна, першую аголеную скульптуру. Самому Анікейчыку ідэя спадабалася, і ён яшчэ зрабіў для горада фантан «Купалінкі» каля літаратурнага музея Янкі Купалы. Паміж з’яўленнем першага і другога фантанаў у Мінску прайшло 98 гадоў. Першы — «Хлопчык з лебедзем» з’явіўся каля Купалаўскага тэатра ў 1874 годзе, а другі — у 1972-м.

Тут жа Павел паказвае фотаздымак доўгавалосай дзяўчыны і пытаецца, як завуць каралеву русалак: «Не Арыель і не Русалачка», — кажу адразу. «Ундзіна», — нарэшце здагадваецца хтосьці.

Ундзіны жылі толькі ў калодзежах княжацкіх палацаў. Бачылі ў Міры, у Нясвіжы калодзежы ў дварах? Раз на месяц, у поўню Ундзіна вынырвала, пачынала іграць ды спяваць прыгожа. Людзі збіраліся паслухаць бясплатны канцэрт, але бясплатны ён быў умоўна, таму што чалавека, які падыходзіў бліжэй за ўсіх, русалка хапала і зацягвала ў калодзеж.

Наступны пункт — Музей кіно.



Тэатр Горкага



Старая сцяна тэатра Горкага

Першы фільм, зняты і паказаны ў Беларусі — «Лясная быль» Юрыя Тарыча. Другі — «Забітая жыццём». Трэці — «Кастусь Каліноўскі». Для трэцяга фільма шукалі горад, краявідамі падобны на Вільню, і выбралі Мінск. Чаму раю гэты фільм — у апошнія 45 хвілін яго можна назіраць даваенны Мінск, на гэтых кадрах захаваліся цэрквы і касцёлы, што пазней былі разбураныя. У музеі ёсць дзве залы, на 10 і на 30 месцаў, можна сабрацца з сябрамі, замовіць адну з іх і паглядзець адзін з першых фільмаў.

Ідзём да тэатра Горкага. Будынак, дзе ён цяпер знаходзіцца, раней займала харальная сінагога. «Зараз будзем гуляць з вамі ў гульню «Знайдзі 333 адрозненні», — кажа Павел, паказваючы фотаздымак 1906 года. Рэстаўратары адкрылі збоку кавалак сцяны першапачатковай забудовы. «Паглядзіце, як за стагоддзе вырас культурны слой», — звяртае нашу ўвагу экскурсавод. Сапраўды, бакавыя дзверы хаваюцца пад зямлю ці не на трэць. А калісьці ж тут мусіў быць яшчэ і ганак.

Яўрэі ў Беларусі жывуць з 1388 года. Па мерках ЮНЕСКА народ, які жыве на зямлі больш за 500 гадоў, лічыцца карэнным. У пачатку мінулага стагоддзя са ста тысяч жыхароў Мінска пяцьдзясят дзве тысячы былі яўрэямі. Таксама наша краіна адметная тым, што на пэўны час (1920—1930-я гады) зрабіла яўрэйскую мову — ідыш — адной з дзяржаўных, на роўных з беларускай, рускай і польскай.

Яшчэ адна важная падзея — у 1858 годзе ў вёсцы Лужкі Віцебскай вобласці нарадзіўся чалавек, якога ўвесь свет ведае пад імем Іліэзэр Бэн-Іегуда. Ён вядомы тым, што вярнуў ва ўжытак першапачатковую яўрэйскую мову — іўрыт, якая не ўжывалася тысячу гадоў і была замененая ідышам — мяшанкай іўрыта і нямецкай мовы. Калі яго жонка чакала дзіця, ён прапанаваў ёй пасля яго нараджэння размаўляць толькі на іўрыце. Каб усвядоміць, што гэта была за прапанова, уявіце сабе, што вам сваякі кажуць: «А з гэтага моманту размаўляем на мове 3-га Статута ВКЛ». Жонка пагадзілася. Спачатку ўсім было смешна, потым — цікава… І мову, якой не карысталіся 1000 гадоў, аднавілі за 40 гадоў: пачалі ў 1882 годзе, з нараджэннем першынца Бэн-Сыёна. Пасля зацвярджэння брытанскага мандата на Палясціну (1920) Бэн-Егуда быў адным з тых, хто пераканаў брытанскага вярхоўнага камісара абвясціць іўрыт адной з трох афіцыйных моваў нароўні з арабскай і англійскай, што і сталася 29 лістапада 1922 года.


Люк


Балкон Рэйман

Далей ідзём у сквер Міцкевіча. На пагорачку за аўтобусным прыпынкам Павел паказвае 2 люкі.

4 жніўня 1988 года звычайны экскаватаршчык капаў траншэю для каналізацыі. Адкапаў вялікую скрыню, вельмі падобную да труны. Адкрывае, а там — клад, самы вялікі, які знайшлі ў гісторыі Мінска: 547 срэбных прадметаў. Яны і па сёння экспануюцца ў Нацыянальным гістарычным музеі. А грошай, атрыманых за знаходку клада, экскаватаршчыку хапіла, каб у крызісным 1988 годзе набыць 4-пакаёвую кватэру і «Волгу». Боль і енк панавалі ў той час у кватэрах кабельшчыкаў, якія за 15 гадоў да гэтых падзей пракладалі тут тэлефонны кабель: ім да клада не хапіла аднаго сантыметра зямлі.

Цераз вуліцу Гарадскі Вал (былую Навараманаўскую) — будынак першага ў горадзе мураванага пажарнага дэпо. Каб працаваць тут, трэба было ўмець іграць на духавых музычных інструментах, таму што ў вольны ад надзвычайных здарэнняў час пажарныя выконвалі ролю гарадскога духавога аркестра: ігралі ў тэатры, на балях і г. д.

Побач знаходзіцца будаўнічая пляцоўка, пад якой знайшлі нямецкі дот — вялікую бетонную «каробку». Узарваць яе нельга, бо побач таксама ўсё паляжа. Давялося разбураць малаткамі. І тут здарылася сенсацыя: побач з дотам знайшлі 2 гарматы. Збегліся гісторыкі, сказалі, што гарматы французскія, XVIII стагоддзя, стралялі на 3 кіламетры, шасціфунтоўкі. Усё было шыкоўна, пакуль не адвезлі ў рэстаўрацыйную майстэрню. Аказалася, што адтуліны, куды ўстаўляецца бікфордаў шнур, не скразныя, і пры ўсім жаданні гарматы гэтыя выстраліць не маглі. Пачалі разбірацца, і аказалася вось што. Маскоўская здымачная група прывезла гэтыя гарматы для батальнай сцэны, знялі яе і пакінулі «рэквізіт» на здымачнай пляцоўцы. «Беларусьфільм» вырашыў падарыць іх якому-небудзь музею. Самымі «слабымі» аказаліся «пажарнікі», ім гэтыя гарматы і падарылі. У экспазіцыю зброя не падыходзіла, таму яе закапалі пад музеем. Прыходзьце на «Паданні сівой даўніны» — і не толькі даведаецеся, што з імі далей стала, але і пабачыце іх.

Пераходзім дарогу, ідзём па вуліцы Рэвалюцыйнай. Павел каментуе.

Вуліца Рэвалюцыйная раней была Койданаўскай — вяла ў Койданава (сучасны Дзяржынск).

Стаім перад былой жаночай гімназіяй. Вось цяпер у нас назвы простыя: «Гімназія №…» ці «Школа №…», а раней як умелі называць! «Аляксееўская прыватная васьмікласная з правамі ўрадавай жаночая гімназія Е. Д. Рэйман». Дарэчы, у дарэвалюцыйныя часы дзённікаў не было — проста мара сучаснага школьніка. У будынка захаваліся сапраўдныя балконы — мастацкая коўка, кракаўскае ліццё, канец XIX стагоддзя, а на сярэднім балконе захавалася нават арыгінальная падлога — калі зазірнуць праз яе, можна ўбачыць кляймо майстроў. Гэта адзін з апошніх такіх балконаў у Мінску.



Гімназія Рэйман

Завяршальная кропка маршруту — Езуіцкі калегіум XVIII стагоддзя. З Рэвалюцыйнай збочваем у двор дома № 1 і трапляем ва ўнутраны двор Архікатэдральнага касцёла Імя Найсвяцейшай Панны Марыі. Большасць турыстаў прызнаецца, што бачыць Катэдру з такога ракурсу ўпершыню.

Касцёл пабудаваны ў 1710 годзе, а знаходзімся мы зараз ва ўнутраным падворку былога езуіцкага калегіума. Па сутнасці тут знаходзіўся першы на тэрыторыі Мінска ўніверсітэт.

Езуіты з’явіліся ў 1534 годзе ў Іспаніі, гэта быў адказ Ватыкана на рух Рэфармацыі. Адным са шляхоў была адукацыя. Адукаваных людзей у той час бракавала, асабліва пасля войнаў ці пошасцяў.

У 1699 годзе ў Мінску адкрываецца езуіцкая школа, справа ад касцёла, дзе зараз музычная гімназія. Дзіўна, але праграма, якую езуіты



Унутраны двор Катэдры

напісалі для школы і калегіума, амаль не змянялася 350 гадоў. Пра дзіцячую адукацыю яны зразумелі вельмі простую рэч: каб дзіця вучылася, яму ў школе павінна быць цікава, гэтае навучанне павінна быць гульнёй і спаборніцтвам. Вучняў — дзесяцігадовых хлопчыкаў — яны бралі ўсіх веравызнанняў і з усіх сацыяльных груп. З бацькамі падпісвалася папера, у якой езуіты абавязваліся не пераводзіць гвалтам дзяцей у каталіцтва, а бацькі — не ствараць перашкод, калі дзеці самі гэтага захочуць. Але ўявіце, з 10 да 19 гадоў 10 месяцаў у год дзеці знаходзіліся ў гэтай атмасферы…

Для паступлення ў школу пісалі, як бы мы сказалі цяпер, тэст, каб выявіць першапачатковы ўзровень ведаў. Пасля гэтага клас разбівалі на 2 паловы, і ў кожнага вучня з адной групы быў асабісты апанент з другой, прыкладна роўны па ведах. Калі вучань не ведаў адказу на пытанне, настаўнік пытаўся ў яго апанента, такім чынам усе маглі паказаць свае веды, а не толькі самыя моцныя. Калі вучань адказваў на пытанне, то балы атрымлівала яго група. А вучню, які не адказваў на пытанне, уся група дапамагала вучыцца.

Асобная тэма ў тыя часы — мовы. Колькі іх трэба было ведаць адукаванаму чалавеку ў той час? Беларускую, польскую, рускую, украінскую хоць бы разумець, ідыш, бо тут жыло шмат яўрэяў, нямецкую, французскую, а яшчэ латынь і старажытнагрэчаскую — 9 моў, каб адчуваць сябе камфортна ў асяроддзі.

Першы год выкладанне ішло па-беларуску, паступова ўводзілі 2 мовы: латынь і старажытнагрэчаскую. Раз на дзень давалі адно граматычнае правіла і 2—3 сказы для завучвання. Памнажаем гэта на 10 месяцаў у годзе і атрымліваем добрую базу. А з другога года настаўнік прыходзіў і казаў, што з гэтага моманту ўсе размаўляюць, напрыклад, па-латыні, як на ўроках, так і на перапынках. Каб не было магчымасці не выканаць распараджэнне, давалі драўляны жэтон, «бабку», старасту класа, і той хадзіў і слухаў: калі хтосьці размаўляў па-беларуску, атрымліваў жэтон і ўжо сам хадзіў і слухаў, хто і як размаўляе. У каго медаль заставаўся ў канцы дня, той, калі ўсе адпачывалі, мусіў выконваць самую нецікавую і нудную работу.

Што ж заахвочвала іх так вучыцца? Па выніках года раздаваліся ўзнагароды. У малодшых класах яны былі нязначныя: дадатковыя канікулы, стыпендыі і г. д. На перадапошнім годзе навучання, ужо ў калегіуме: двухмесячнае падарожжа па ўсёй Еўропе з заездам у Ватыкан. А ўявіце, што вы сын селяніна, якому наканавана нічога далей свайго агарода не бачыць, і гэтая паездка — адзіная магчымасць павандраваць па замежжы. У апошні год прыз — імянная зброя. Калі яе прадаць, можна было набыць дзве, а то і тры вёскі — першапачатковы капітал. Такім чынам выпускнікі дзяліліся на 2 групы: тыя, каму даставалася імянная зброя, маючы грошы, маглі выбіраць працу па гусце. Тыя, каму грошай не дасталося, будавалі кар'еру.

Езуіты зразумелі адну вельмі простую рэч: варта ўкладваць рэсурсы не ў нешта, а ў некага. Паколькі адукацыю давалі там вельмі добрую, выпускнікоў калегіума без праблем бралі на работу ў гарадскія органы, адпаведна, у ордэна не магло быць ніякіх праблем з уладай, большасць прадстаўнікоў якой — выпускнікі калегіума.

Запісала Кацярына Захарэвіч

# Дзве міні-імпрэсіі, што напісаліся ў самым пачатку зімы…



## Што можна ўбачыць за акном…

Восень…

Лістота, што апала з дрэў, ляжыць на мокрай зямлі. Пахмурнае неба загароджвае сонца. Нешматлікая лістота, якая яшчэ засталася на голых галінках, моцна дрыжыць, быццам хвалюецца, што вось-вось сарвецца. А потым нечаканы парыў ветру рэзка нахіляе кусты і дрэвы — і зноўку ўсцілаецца сырая зямля чырвона-жоўтымі дыванамі.

Рака шэрая і панурая, дзе-нідзе пакрытая ўжо тонкай наледдзю. Барабаніць дождж па стрэхах, і здаецца, што плача неба, нібыта яго нехта пакрыўдзіў.

І людзі вакол ужо не ўсміхаюцца так летуценна і шчыра, як гэта было ўлетку. Уся жывая прырода ў нерухомасці: чакае відавочнага надыходу зімы. Павольна адводжу твар ад халоднага чыстага акна.

Моцна будзе спаць узімку наваколле. Ажно да далёкай яшчэ вясны…



## «Вандроўнік»

Снежаньскім халодным днём мой погляд спыніўся на маленькай чырванаватай кропцы ў паветры, якую парывістыя хвалі ветру матлялі ў бакі. Падалося, што гэта нехта выратоўваецца ад моцнага віру і ўсімі сіламі працягвае чапляцца за жыццё.

Лётае… Лётае… Лётае…

Хто ж гэты дзіўны вандроўнік? Прыглядаюся — і бачу маленькі кляновы лісточак. Чаму ён тут, у месцы, дзе паблізу ніводнага клёна? І што яму рабіць у паветры, у час, калі восень даўно перадала спадарыні зіме ўсе свае правы і абавязкі?

Тут дазваляю сабе невялікую асенне-зімовую імправізацыю сумнай «гісторыі» маленькага кляновага лісточка.

Была позняя хмурая восень. Дзьмуў злосны халодны вецер. Вось і самы апошні чырвона-жоўты лісточак не ўтрымаўся на родным галінцы. Ён сарваўся, але не пажадаў улегчыся на мокрую шэрую траву ў чаканні снежнай коўдры.

Ці, можа, усё ж спадзяваўся на нешта лепшае?

І вось маленькі вандроўнік працягвае лётаць па белым свеце. Дакладней, над белым снегам…

Так, на жаль, бывае ў жыцці. І вельмі часта.

Лётае… Лётае… Лётае…

Аж пакуль хто-небудзь «не зачэпіць» яго ўважлівым поглядам.

Міхась Кротаў,
8 клас, гімназія № 51, Гомель



# Ці разумеюць нас дрэвы?

Як лічыце, ці разумеюць нас дрэвы? Вось я лічу, што разумеюць. А калі вы ў гэтым сумняваецеся — паслухайце гісторыю, што адбылася са мной у час, калі я адпачываў летам у свайго дзядулі ў Закарпацці.

Там аднойчы раніцай я ўбачыў, як мой добры слаўны дзядуля з сякерай накіраваўся да старой яблыні, што расла ў ягоным садзе і ўжо некалькі гадоў запар не частавала сям'ю яблыкамі. Таму дзядуля, як сур'ёзны і клапатлівы гаспадар, і вырашыў ссекчы бескарыснае дрэва.

Праўда, пасля маіх перакананняў і просьбаў ён перадумаў і даў яблыні апошні шанц выправіцца. Пры гэтым дзядуля так пераканаўча пагражаў дрэву, што мне нават шкада стала бедную яблыню. Я разумеў, што і на наступны год яблыня не зможа «выправіцца», і тады дзядуля, вядома ж, ужо не пакіне ёй яшчэ аднаго шанцу…

І якое ж было маё здзіўленне, калі на наступную вясну яблыня, якая не квітнела ўжо некалькі гадоў, уся пакрылася бела-ружовымі кветкамі. Яна стаяла прыгожая, нібыта маладая на вяселлі, і немагчыма было вачэй адвесці ад яе незямной прыгажосці.

А потым яблыня зрабіла нам і «смачны» падарунак у выглядзе румяных налiўных яблыкаў. Пэўна, вельмі ж моцна спалохалася дзядулевай пагрозы.

Вось і вырашайце самі: разумеюць нас дрэвы ці не?

Сяргей Цяшкоўскі,
8 клас, гімназія № 51, Гомель



# Пярсцёнак полымя

Жыў калісьці ў невялікім гарадку каваль, які адначасова быў адметным ювелірам, і настолькі ўмелым, што за вырабамі ягонымі прыязджалі не толькі багатыя купцы, але і графы, герцагі, іншыя знатныя вяльможы. Яны ахвотна куплялі ў майстра ўсе яго вырабы, а часта і замаўлялі што-небудзь складанае і адмысловае. Але кавалю-ювеліру праца была толькі ў радасць. З дня на дзень ствараў ён мячы і кінжалы, разьбяныя, з каштоўнымі камянямі на рукаяцях, а таксама залатыя і срэбныя ўпрыгожанні для жонак купцоў, графаў і герцагаў.

І была ў майстра дачка, дзяўчына незвычайнай прыгажосці, якая вельмі любіла прыроду. Яна магла падоўгу сядзець у садзе, слухаць птушак, павольна прагульвацца сярод кветак. А больш за ўсё дзяўчыну заварожваў агонь. Ночы праводзіла яна каля вогнішча, пільна ўглядаючыся ў трапяткія языкі полымя, а потым прыдумвала і расказвала бацьку цікавыя легенды, прысвечаныя агню.

У хуткім часе дачцэ каваля-ювеліра павінна было споўніцца васямнаццаць гадоў. Вырашыўшы зрабіць падарунак адзінай дачцэ, майстар не пашкадаваў вялікі рубін. Ён доўга працаваў над падарункам, цэлыя ночы аграньваў каштоўны камень, потым рабіў для яго залаты пярсцёнак. За ноч да дня нараджэння дачкі каваль-ювелір скончыў працу над падарункам і пакінуў яго ў майстэрні. Але раніцай яго там не знайшоў.

На ўсё каралеўства паднялася паніка. Рубін у тых мясцінах быў даволі рэдкім каменем і каштаваў вельмі дорага, а адметная праца каваля-ювеліра зрабіла яго яшчэ даражэйшым. Сам кароль пагадзіўся дапамагчы майстру знайсці пярсцёнак.

Шукалі дзень, шукалі месяц, але нічога не знайшлі. Бацька за гэты час зрабіў для дачкі яшчэ адзін пярсцёнак. Не такі дарагі, але дзяўчыне і гэты вельмі спадабаўся…

А роўна праз год у гарадку, дзе жыў каваль-ювелір, нечакана загарэўся дом багатага купца. Дом згарэў дашчэнту, але ніхто не надаў гэтаму ўвагі, бо такое часам здаралася. А яшчэ праз месяц згарэў дом начальніка пажарнай брыгады. А потым кожны месяц здараліся пажары, прытым, не толькі ў гэтым гарадку, але і па ўсім каралеўстве. І так працягвалася ў адзін і той жа дзень з году ў год, з дзесяцігоддзя ў дзесяцігоддзе…

І папаўзлі чуткі сярод людзей. Казалі, што віной усяму той скрадзены пярсцёнак. Але ніводнага разу не знаходзілі пярсцёнак на папялішчах.

Ходзіць легенда, што працягнуць гарэць дамы да таго часу, пакуль пярсцёнак зноў не трапіць у рукі да гаспадароў або іх нашчадкаў, бо ні самога кавалі-ювеліра, ні адзінай ягонай дачкі даўно ўжо няма ў жывых. І таму некаторыя людзі да гэтага часу шукаюць і сам пярсцёнак, які празвалі ў народзе «пярсцёнкам полымя», і нашчадкаў, верачы, што толькі тады скончацца жудасныя пажары.

Але хто ведае…

# Зорны захавальнік і Капітан

Жыў быў Зорны Захавальнік, галоўным абавязкам якога было сачыць за ўсімі зоркамі ў Сусвеце. Аднойчы ў яго дом, размешчаны каля самай вялікай зоркі, прыляцеў карабель. І прыпаркаваўся проста каля ўвахода ў дом Захавальніка, а з расчыненага люка выйшаў Капітан. Цвёрдым крокам падышоў ён да ганка і гучна пастукаў. Зорны Захавальнік, вядома ж, адразу адчыніў Капітану дзверы.

— Якая ў цябе да мяне справа? — звярнуўся ён да свайго госця.

— Такая справа, што мне надакучыла быць капітанам-даследчыкам! — адказаў Капітан — Я хачу стаць Захавальнікам!

— А што ты будзеш захоўваць?

— Зоркі! Як і ты! Дакладней, замест цябе, бо ты ўжо стары і табе час адпачываць!

Задумаўся Захавальнік, уважліва паглядзеў на Капітана. А потым сказаў:

— Калі хочаш захоўваць зоркі, то захавай спачатку адну маленькую зорачку хоць бы на працягу аднаго года, — і ўказаў на белага карліка з самага краю Сусвету. — А роўна праз год зноў прылятай сюды, і мы працягнем размову.

З гэтымі словамі Зорны Захавальнік зачыніў перад Капітанам дзверы.

Капітан вярнуўся на карабель і паляцеў да патрэбнай зоркі. Загадаў ён свайму экіпажу ўважліва за ёй сачыць: глядзець, каб не перагрэлася, не мяняла арбіту, свяціла ярка. І экіпаж, хоць і не вельмі ахвотна, але пачаў выконваць указанні Капітана.

Прайшоў усяго адзін толькі тыдзень, а Капітан стаміўся ад аднастайных дакладаў. Ён перастаў так старанна сачыць за зоркай, суткамі ўглядаючыся ў цёмную далячынь Сусвету, дзе калісьці быў даследчыкам. Праз два тыдні Капітан амаль узненавідзеў гэтую зорку, і, зачыніўшыся ў сваёй каюце, гадзінамі праглядваў ранейшыя свае справаздачы пра прыгоды ў глыбокім космасе.

Праз месяц Капітан здаўся і вярнуўся да Захавальніка Зорак, аб'явіўшы, што больш не жадае сачыць за маленькай зорачкай, а лепш паляціць зноў баразніць прастору неабсяжнага космасу.

Захавальнік уздыхнуў, хаваючы ўсмешку.

Не адзін капітан вось так прылятаў да яго, але ніводны не вытрымаў і паловы выпрабавальнага тэрміну. Бо для кожнага ў Сусвеце ёсць свая справа, і той, хто, нягледзячы на небяспекі, бесперапынна імкнецца ў таямнічыя далячыні, вечна спяшаючыся да новых планет і сузор'яў, наўрад ці зможа вытрымаць вечнасць, проста назіраючы за велічнай прыгажосцю зорнага неба.

Лізавета Карчэня,
10 клас, гімназія № 10, Мінск

# Калі на ўсіх адна радасць

*Калектыўная навагодняя казка*

1

Жыла-была адна з самых пазітыўных эмоцый — Радасць. Яна без стомы ўсяляла ў людзей упэўненасць у сваіх сілах, дапамагала ім пераадольваць цяжкасці, а таксама здзяйсняць добрыя ўчынкі і нават подзвігі.

Дзякуючы Радасці людзі адчувалі смак да жыцця і імкнуліся быць шчаслівымі.

Аднойчы Радасць назірала за людзьмі з акна свайго паветранага палаца і думала аб новых падарунках для сваіх любімцаў. Гэтым разам ёй хацелася падараваць ім штосьці асаблівае. Была на тое важкая прычына — набліжаўся Новы год, самае любімае свята.



Сняжана Яфімава

— І што б такога нам прыдумаць гэтым разам? — запыталася Радасць у свайго навагодняга кампаньёна, Дзеда Мароза. Ён, дарэчы, быў вялікім спецыялістам у стварэнні вялікіх і маленькіх цудаў, а таксама прыемных нечаканасцяў.

— Не так проста адысці ад тых правілаў і шаблонаў, што за сотні гадоў утварыліся… — уздыхнуў Дзед Мароз, задуменна кудлацячы сваю белую бараду. — Здаецца, усё, што толькі магчыма, перапрабавалі. А можа… можа, у дзяцей запытаць?

— Ну, і які ж гэта будзе сюрпрыз? — паціснула плячамі Радасць. — Не, па падказках мы працаваць не станем!



Ксенія Іода

— А мы, дарэчы, па іх толькі і працуем! — усміхнуўся Дзед Мароз. — Ды яшчэ як працуем! Дзеці ж мне штогод свае лісты дасылаюць. З просьбамі. Што для Машы прынесці, што для Сашы, што для іх бацькоў. А яшчэ і для дзядуляў з бабулямі. І фантазія ў дзетак ого як працуе! Вось бы каму казачнікамі быць! Давай выкарыстаем іх дапамогу.

Ідэя Радасці спадабалася, і яна ўзялася за перачытванне дзіцячых навагодніх лістоў. Знайшла там шмат цікавага і — адказ на галоўнае сваё пытанне.

— Як лічыш, Дзядуля, радасць для кожнага і радасць для ўсіх — што больш важкае?

— Думаю, — сказаў Дзед Мароз, насоўваючы на галаву чырвоны капялюш, — што агульная радасць больш значнай будзе. Уяві сабе: уся сям'я ў адно імгненне ўзрадавалася! Або цэлы клас у школе…

— Або ўся школа! — падхапіла Радасць, загадкава ўсміхаючыся, і паклала ў навагодні мех Дзядулі Мароза асаблівы падарунак.



Ганна Альшэўская



Вікторыя Ключнік

2

— А ты што папросіш? — шэптам запыталася Віка ў Сняжаны.

— Сакрэт! — адмахнулася тая. — Хіба не ведаеш, што калі пра гэта раскажаш, Дзядуля Мароз не прынясе нічога асаблівага. Сто разоў праверана.

— Галіна Анатолеўна, а як правільна напісаць: «прывязіце» ці «прышліце»? — спыталася ў настаўніцы Ганначка.

У класе ішоў чарговы занятак факультатыва «Развіццё творчых здольнасцяў». Вось толькі замест звыклых практыкаванняў дзеці пісалі лісты да Дзядулі Мароза. Напэўна, таму ў прасторным кабінеце панавала асаблівае творчае натхненне. Праўда, яму крыху перашкаджала не вельмі прыемная прахалода, але што зробіш! Зіма на дварэ, а школа старая, шчыліны ў рамах як ні заклейвай, усё роўна холадна.

Настаўніца паправіла шаль на плячах і нахілілася над сшыткам Ганначкі.

— Што ў цябе?

Дарагі Дзядуля Мароз! Я прашу, каб ты падарыў мне мабільны тэлефон. А маім тату і маме падары, калі ласка, шчасце.

Сняжана ўздыхнула:

— У такім холадзе кепска думаецца. Хацела напісаць пра купальнік на лета, а атрымалася «рукавічкі».

Яна пазірала на нечаканасць у сшытку і не ведала, што ж з ёй рабіць.

Для сябе я б жадала атрымаць шарнірную ляльку Монстэр Хай і рукавічкі на лета, для мамы — мазь, каб вылечыла спіну, у таты і так усё ёсць, для нашага класа — тэлевізар з пакетам мульцікаў і пультам кіравання.

— Вой, і ў мяне рукавічкі! — здзівілася Ангеліна, выпраўляючы памылку ў сваім пасланні.

Ты ж ведаеш, Дзядуля Мароз, што мне шмат не трэба — рукавічкі (закрэслена) ролікавыя канькі, вазу з кветкамі, вельмі падобнымі на сапраўдныя, і прыгожую кофтачку для дыскатэкі…

— Ды вы б лепш адразу новыя вокны замовілі! — хмыкнуў Арцём, добра вядомы ў школе сваім песімізмам. — І што дарэмна час марнаваць? Дзеда Мароза ўсё роўна ў прыродзе не існуе! Так што, як хто, а я асабіста пераключаюся на байку…

Ён адклаў убок незавершанае навагодняе пасланне і ўзяў чысты аркуш паперы. Падумаў крыху і пачаў пісаць:

Ведаю, што цябе не існуе. Але пішу на ўсялякі выпадак. Калі ты ўсё ж ёсць, тады пакладзі пад ёлку ў нашай кватэры новае прыгожае футра для мамы, футбольныя буцы для таты, для нашай настаўніцы — глобус, слухаўкі да планшэта

для бабулі, для ўсяго класа — запасныя ручкі (бо яны ў нас увесь час губляюцца), а для мяне… ну, ты сам разумееш…

— Вой, а можа, і праўда, вокны заказаць? Каб ва ўсёй нашай школе іх тэрмінова памянялі! — ажывілася Ксюша і нізка схілілася над сваім лістом. — Вось здорава б было! Прыйдзем пасля канікул — і цёпленька!

Дзядулечка Мароз, я хачу папрасіць у цябе сястрычку. А яшчэ зрабі маіх бацькоў дружнымі. І мой клас таксама…

— Сапраўды!

— Здорава прыдумана!

— Памятайце, што гэта я першым ідэйку падкінуў!

У кабінеце стала ціха. Толькі ручкі старанна рыпелі па паперы, нараджаючы новыя просьбы да галоўнага навагодняга адрасата.

3

— Ну, і хто скажа, што Дзеда Мароза не існуе? — Сняжана з усмешкай паглядзела на Арцёма.

— Існуе! — зазвінела па ўсім класе два дзясяткі ўзрадаваных галасоў. — Ур-р-а-а Дзядулечку Марозу!

— Гэта яшчэ што! — уварваўся ў клас адзін са старшакласнікаў. — Вы лепш у сталоўку зайдзіце — там, наогул, тропікі!

Тры дні радавалася і трыумфавала школа. Вучні весяліліся, абдымаліся і віншавалі адзін аднаго. Стараліся ўпрыгожыць новыя падаконнікі фіялкамі і кактусамі, ды так актыўна, што да канца тыдня падаконнікі гэтыя пачалі нагадваць джунглі.


Ангеліна Кадач

— Мы зрабілі гэта! Мы змаглі! Мы былі разам! — чулася на кожным кроку.

4

— Што і трэба было даказаць! — усміхнулася Радасць, пазіраючы на ўсё гэта зверху, з акна свайго нябеснага палаца. — У маім выпадку — адзінка істотна перавышае мноства. Што б такое прыдумаць наступным разам? Бо так хочацца, каб усмешкі ніколі не сыходзілі з твараў…

У кожнай казцы ёсць доля праўды. І гэты выпадак не выключэнне — педагогі і вучні дванаццатай школы горада Гродна атрымалі сродкі для замены школьных вокнаў, стаўшы пераможцамі рэспубліканскага конкурсу «Энергамарафон-2016». Разам мы можам здзяйсняць самыя неверагодныя цуды, прычым, без усялякай староннняй дапамогі. Не верыце? Тады праверце!


Арцём Кузьма

Вучні 3—4 класаў,
СШ № 12, Гродна

## Лепшае з конкурсу «Мая дудка»

Віншуем вучняў — пераможцаў конкурсу «Мая дудка», зладжанага Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры і прысвечанага 125-годдзю выхаду ў свет аднайменнага паэтычнага зборніка Францішка Багушэвіча.

### Запавет Багушэвіча

На ўсю Беларусь мільён пракурораў
І толькі адзін, толькі ён адвакат.
Рыгор Семашкевіч

Ён быў адвакатам не толькі
Сялянскаму простаму люду.
Ён быў адвакатам для мовы,
Для мовы сваёй беларускай:

«Вы паслухайце, людзі добрыя,
Людзі добрыя, беларускія!
На судзе прад вамі і Богам я
За мову сваю ўступлюся…

Ніякая яна не “мужыцкая”,
І не горш за тую французскую,
Мова наша народная, чыстая,
Мова наша такая ж людская!

Ну, чаму ж мы такія бяздольныя?
Родных слоў чаму выракаемся?
І пісаць мы па-свойму няздольныя,
І з мовы сваёй насміхаемся!

А яна ж нам навекі дадзена!
І душы нашай слабай адзежына!
І продкамі ў нас закладзена!
І нашчадкам быць павінна данесена!

Шмат народаў, на мову забыўшы,
Праз часы і стагоддзі “замёрлі”…
Мову родную, у сэрцах злучыўшы,
Не пакіньце яе, “каб не ўмёрлі”!»

…І да слоў Бурачка мы і сёння
Больш дадаць нічога не маем.
Гэта нам запавет назаўсёды…
Яго словы ў душы трымаем.

Тыя словы пранесці гатовы
І сынам перадаць сваім рады.
Будзе жыць беларуская мова,
Пакуль ёсць у яе адвакаты!

Анастасія Раманькова,
10 «А» клас, СШ № 40, Магілёў

# «Не забывайце мовы сваёй»

Калі-нікалі, але хочацца сесці ў «машыну часу» і здзейсніць на ёй падарожжа. Напрыклад, у не такое далёкае, як падаецца на першы погляд, дзевятнаццатае стагоддзе. Але ў якую краіну аднясе нас цудадзейная машына? Не трэба турбавацца! Няцяжка будзе пазнаць жыхароў па вопратцы, па ладзе іх жыцця і па мове, на якой яны размаўляюць.

Але гэта раней можна было так ідэнтыфікаваць нацыянальнасць. А цяпер? У эпоху глабалізацыі ні вопратка, ні дом, ні рамёствы не скажуць вам, куды вы завіталі. Але зноў не турбуйцеся: захавалася адна-адзіная прыкмета. Канешне ж, гэта мова!

Вандруючы па свеце, хай і не ў часе, а толькі ў прасторы, я заўважыла, што мясцовыя жыхары пытаюць, на якой мове мы размаўляем у Беларусі. Не люблю хлусіць і гавару, што большасць — размаўляе па-руску. Вы б бачылі рэакцыю маіх новых знаёмых! Нават вядомая еўрапейская талерантнасць тут адступае, і на твары чытаецца незадаволенасць.

«Вы хочаце, каб вас не блыталі з Расіяй, а гаворыце па-руску ў той час, калі ёсць свая, і даволі прыгожая, мілагучная мова», — думаюць, магчыма, мае новыя знаёмыя. Насамрэч. Наша мова — гэта не толькі прыкмета нацыянальнай прыналежнасці, гэта яшчэ і тая самая сувязь паміж намі і Еўропай, паміж намі і Расіяй. Калі прыслухацца да мовы, у ёй можна знайсці сугучча і з польскай, і з украінскай, і нават з англійскай мовамі!

І тут напрошваецца асацыяцыя… з нашымі пісьменнікамі. Так, наш Мацей Бурачок, як і рускі Аляксандр Пушкін, увёў у літаратурную мову паэзіі простыя словы. Ён, як і Адам Міцкевіч, лічыцца славянскім паэтам. Ён, як мой зямляк Валянцін Таўлай, імкнуўся ўсім данесці, што ён беларус, а не паляк, не тутэйшы.

І сёння, у дваццаць першым стагоддзі, успамінаючы знакамітыя словы Францішка Багушэвіча, мы, яго нашчадкі, упэўнены, што роднай мовы пакідаць нельга, каб не памерці як нацыя, застацца аўтэнтычнымі!

Марыя Тукай,
СШ № 7, Баранавічы

# Вандроўка з песняром

Смаргонь. Гарадскі парк. Помнік Францішку Багушэвічу. У саламяным капелюшы і сялянскай світцы ён глядзіць на мяне сваімі ўдумлівымі вачыма. Я падышоў да яго, працягнуў руку, павітаўся і папрасіў, каб ён паказаў мне свае мясціны. Ён усміхнуўся ласкавай усмешкай, і мы разам адправіліся ў незабыўную вандроўку.

Кушляны…

Францішак Багушэвіч прывёў мяне ў Літаратурна-мемарыяльны музей, які знаходзіцца ў яго рэканструяваным доме. Паэт пачаў аповед пра гісторыю роду, пра свае народзіны, паказаў метрычны запіс. Мноства фотаздымкаў: маленства, вучоба ў гімназіі і ва ўніверсітэце, настаўніцтва ў Доцішках. Асабліва мяне ўразіў стэнд, прысвечаны паўстанню 1863 года, бо ўся сям'я Багушэвічаў прымала ў гэтым паўстанні ўдзел.

З вялікай цікавасцю прайшоў я ў гасцёўню. Камода, кансоль, люстэрка, піяніна… Усё тое ж, дарагое сэрцу і душы паэта!

Вось кабінет, у якім няма нічога лішняга. Стол, гадзіннік на сцяне. Вялікае венецыянскае акно, праз якое найпрыгажэйшы краявід на Трыколі. У гэтым пакоі паэт давяраў паперы таямніцы сваёй душы.

Багушэвіч пачаў успамінаць, як пасля віленскага тлуму любіў паблукаць са стрэльбаю па кушлянскіх пералесках, і паказаў тую самую стрэльбу, вабік і іншы паляўнічы рыштунак, што знаходзіцца ў левай баковачцы.

Калі мы выйшлі на вуліцу, паэт з любоўю агледзеў і паказаў мне мураваную абору, старую студню, двухпавярховы свіран, стары парк. З вялікай радасцю ён прайшоў па любімай каштанавай алеі, большасць дрэў якой пасадзіў сам. Адпачылі мы ў славутай ліпавай альтанцы.

За сядзібаю я ўбачыў невялічкую драўляную каплічку, і Багушэвіч расказаў, што яны з бацькам пабудавалі яе за адну ноч — у знак пратэсту супраць масавых перабудоў касцёлаў пад цэрквы.

І нарэшце — Лысая гара, а на ёй камень-схованка. Да яго прыходзіў паэт, пісаў тут вершы і хаваў напісанае, бо на роднай мове ў той час пісаць было забаронена. «Камень, любы камень, ты — мой сябра!» — замілавана сказаў пясняр, і позіркі нашы аднačасова скіраваліся на выбіты надпіс: «Памяці Мацея Бурачка. 1900». У гэтую хвіліну ў яго вачах з'явіліся слёзы, а я нізка схіліў перад ім галаву ў знак удзячнасці за служэнне народу. Схілілі свае галіны і шэсцьдзясят дубоў, што былі пасаджаны тут пасля смерці паэта.

Лунінец.

Я зноў у сваім горадзе. Яшчэ раз я схіляю галаву і гавару: «Вялікі дзякуй вам, дарагія аўтары помніка: мастакі Леў і Сяргей Гумілеўскія, архітэктар Яўген Міцько, а таксама заснавальнік музея-сядзібы Міхаіл Сымонавіч Ляпеха, шматлікія даследчыкі жыцця і творчасці песняра, паэты, якія прысвяцілі яму свае вершы, за тое, што вы зберáглі для нас, маладога пакалення Беларусі, памяць пра выдатнага сына беларускай зямлі, шчырага патрыёта».

Сваімі вершаванымі радкамі (магчыма, не зусім дасканалымі) я таксама выказваю ўдзячнасць Францішку Багушэвічу:

Новы дзень узышоў над светам,
Не цураемся болей мы мовы дзядоў.
І жывём мы тваім запаветам,
І гаворым па-беларуску ізноў.
Дзякую, пясняр роднага слова,
За дудку і смык, і за песні, што граў.
Дзякуй за мову, якую шануем,
Дзякуй, што свет нашу мову прыняў.

Яраслаў Антановіч
СШ № 4, Лунінец

## Беларусь

Беларусь —
наша родная маці.
На зямельцы сваёй,
нібы ў хаце,
Ад бяды
яна ўраз захіне
І яго,
і цябе,
і мяне!
Падтрымае,
ва ўсім дапаможа…

Зберажы Беларусь нашу,
Божа!

Кацярына Захаранка,
6 клас, СШ № 2, Заслаўе

## Першы снег

Першы снег бялюткі,
лепшы ён у свеце!
Выпаў нечакана —
радуюцца дзеці…
Шчыльнай белай коўдрай
снег накрыў узгоркі.
Бесклапотна дзеці
ўніз імчацца з горкі.
Не бяда, што холад —
ярка снег іскрыцца!

Будуць ноччу дзецям
снег і санкі сніцца…

Аляксандр Зарыхта,
10 клас, СШ № 2, Заслаўе

**Віктар Шніп**

# Тут твой край! І яму ты не здрадзіш...

## Край Уладзіміра Караткевіча

«Быў. Ёсць. Буду!»— сказаў перад Богам Паэт.
«Быў. Ёсць. Буду!»— за ім наш народ паўтарае,
Як малітву, якая, як ніць залатая,
На якую да сонца прывязаны свет,

У якім Беларусь, да якой ты ішоў,
Як да песні, якую пяе Белавежа,
На святлынь Наваградскіх зажураных вежаў,
На шум рэк, што змывалі варожую кроў.

Тут твой край! І яму ты не здрадзіш, бо ты
Без яго прападзеш, як вада прападае
У пясках, дзе прапала Арда Залатая
Без Айчыны, нібы без жывое вады.

Тут твой край! І павінна тут мова твая
Вечна жыць, бо на ёй з намі Бог размаўляе
І ніколі ніякая мова другая
Не заменіць яе, як цябе сёння я

Не магу замяніць, і ніколі ніхто
Не заменіць тваю беларускую песню,
У якой у аблоках над сцежкаю веснай
Наша сонца плыве, як плыло сто вякоў,

Каб сягоння наш край асвятліць да краёў,
Да крыві, на якой пачалася Айчына,
І Айчыну да скону любіць мы павінны,
Бо Айчына дала нам жыццё і Любоў.

І ўзлятае над вежамі замкаў старых
Белы бусел, нібыта анёл адзінокі,
І знікаюць, як снег, над Айчынай аблокі.
Беларускае сонца над намі гарыць!

* * *

Неба сумнае, як адзінота,
У якім, як у весняй вадзе,
Маладзік, як адколіна лёду,
Сонца выгляне, лёд прападзе

І ў вадзе адлюструюцца дрэвы,
У якіх ужо спее лісцё,
Каб зялёнаю майскай залевай
Асвяціць, нібы вечнасць, жыццё,

Дзе паводка, як весняе неба,
У якім, як у плыткай вадзе,
Аблачын незастылае срэбра
Вецер ранішні смела крадзе

І, хаваючы за небакраем,
Раздзімае агонь малады
І самота з нябёс выкіпае
Белай квеценню ў нашы сады...

* * *

Вось яшчэ адно лета прайшло,
І лісцём, як агнём, замяло
Нашы сцежкі праз нашы сады,
Дзе хаваліся мы ад жуды,
І туды ўжо нам страшна хадзіць —
Варанне там на дрэвах сядзіць,
І там цёмна, нібыта ўначы,
І там нехта галосіць-крычыць,
Што ўжо лета, як вечнасць, прай-
шло.

І здаецца, зусім не было
Ні цяпла, ні святла, а быў змрок
І дажджы з гэтых сонных аблок...

Вось яшчэ адна восень ідзе,
Што патоне ва ўласнай вадзе,
І з табою мы пойдзем у сад,
Каб вярнуцца, як рэха, назад.

* * *

Патанаючы ў траве, каменне
Свеціцца з глыбокае травы,
Быццам скамянелы сум асенні,
Пра які крычалі журавы
І я чуў той крык па-над сабою
І глядзеў у неба, бы ў ваду,
У якую я ў час лістабою
Лістам пабялелым упаду
І не спуджу журавоў самотных,
Што крычаць пра сум адвечны свой
Над зямлёй пясчанай і балотнай,
Над зямлёю нашай залатой…

* * *

Знікае ноч і гэтак дым знікае
Над вогнішчам, якое аджыло.
І вецер золата ў вуглях шукае,
З вуголля абдзімаючы святло.

Знікае ноч, нібы вада знікае,
Пралітая з нябёсаў, у пяску.
І новы дзень, нібы змяя, якая
Плыве з чырвоным сонцам праз раку,
Паўзе з ружовым сонцам на баку.

І я пайду ад вогнішча начнога
І знікну, як знікае дым,
Як ноч знікае над маёй дарогай,
Як дзень знікае над жыццём маім…

* * *

Першым снегам засыпана тое,
Што шчэ ўчора было залатое
І лятала ў паветры лістотай,
А цяпер незямной адзінотай
Мне душу напаўняе бясконца,
Нібы неба світальнае сонца
Напаўняе святлом і самотай,
Што ляжала апалай лістотай
На траве, што схавана снягамі,
Што рыпяць, як крычаць, пад нагамі,
Бо іду і не хутка вярнуся,
І не плачу я, і не смяюся,
Бо снягамі засыпана тое,
Што шчэ ўчора было залатое...

* * *

Святлом напаўняецца вечар,
Калі Вы выходзіце ў свет,
Дзе зоркі, як ружы, дзе вецер,
Нібы закаханы паэт
За Вамі ляціць, маладою,
Вам сыпле пад ногі лісцё,
Каб сцежкаю Вы залатою
Няспешна ішлі праз жыццё…

**Генадзь Аўласенка**

# Не зусім навагодняя гісторыя



— Ты дзе Новы год сустракаць будзеш? — спыталася Анжэла ў Веранікі. — Дома?

— Ну, так… — крыху памаўчаўшы, адказала Вераніка. Потым яшчэ крышачку памаўчала і дадала няўпэўнена і сумнавата: — Дома… дзе ж яшчэ…

Але Анжэла, здаецца, нічога не заўважыла ў голасе сяброўкі: ні няўпэўненасці, ні суму.

— Вось і я таксама, — уздыхнуўшы, сказала яна. — А што гэта за сустрэча Новага года — дома?! Летась мы з мамай на Мальдзівах яго сустракалі. А ты?

Вераніка нічога не адказала. Ды і што было адказваць?

Мінулы Новы год яна сустракала з Арышкай. І пазамінулы таксама. Бо сябравала Вераніка з Арышкай з першага, лічы, класа.

І аж да восьмага…

А ў верасні ў іх 8 «Б» з'явілася новенькая. Анжэла.

І што дзіўна: звычайна новым вучням не так проста ўвайсці ў калектыў, зрабіцца сваімі. Бывае, што «ўваходжанне» расцягваецца не на тыдні нават — на месяцы. А вось Анжэла змагла стаць «сваёй» хутка. І не проста сваёй — адным з нефармальных лідараў. Дзяўчаты (калі і не ўсе, дык многія) пачалі набівацца ў сяброўкі да новенькай, хлопцы ж літаральна са скуры вылузваліся, стараючыся звярнуць на сябе ўвагу. Анжэла ж адносілася да новых аднакласнікаў аднолькава роўна, аднолькава прыязна і — на пэўнай адлегласці ад кожнага. А ў сяброўкі выбрала сабе чамусьці яе, Вераніку…

Вось гэтага і не змагла дараваць Вераніцы Арышка. І хоць не адбылося ніякай сваркі, працяглае сяброўства скончылася. Вераніцы было цікавей з Анжэлай, а Арышка нечакана завязала таварыскія адносіны з балбатухай Тамаркай.

Так што на гэты навагодні вечар Арышка, хутчэй за ўсё, і запросіць да сябе Тамарку, а ёй, Вераніцы, прыйдзецца сустракаць свята з цёткай Клавай і яе сяброўкай-суседкай, цёткай Палінай. І гэта даволі крыўдна, хоць цётку Клаву Вераніка любіць. Так моцна, як толькі можна любіць самага роднага чалавека…

Бацькоў сваіх Вераніка не памятала зусім, бо на час іх трагічнай гібелі дзяўчынцы і двух месяцаў не споўнілася. І яна, дарэчы, таксама павінна была загінуць у той жудаснай аўтакатастрофе, але маці неяк схітрылася выкінуць дачку праз акно ў снег яшчэ да таго, як іх аўтамабіль, добра пакруціўшы на коўзкай дарозе, пачало куляць на заснежаным крутым схіле.

А потым прагучаў выбух…

Вераніцы пашчасціла яшчэ і ў тым, што жанчына, якая ехала следам, адразу ж спынілася і, не раздумваючы, кінулася на дапамогу. Потым, зразумеўшы, што дапамога, на жаль, спазнілася, ліхаманкава выхапіла з сумачкі мабільнік і пачала тэлефанаваць у міліцыю.

І тут, зусім выпадкова, заўважыла ў выемцы паміж дзвюма гурбінамі белы скрутак, з якога даносіліся ледзь чутныя гукі…

Гэтай жанчынай і была цётка Клава…

— Слухай, а прыходзь да мяне!

— Што?

Здзіўлена і нават з нейкім недаўменнем Вераніка зірнула на Анжэлу.

— Куды прыходзіць?

— Заўтра да мяне, на свята! Гадзін, гэтак… — Анжэла змоўкла, задумалася, — гадзін у восем прыходзь. А што, самае тое — у восем гадзін! Ці ранавата, як лічыш?

— Пачакай, я не зусім зразумела! — Вераніка спынілася, зноў здзіўлена, але адначасова і ўзрадавана паглядзела на сяброўку. — Ты хочаш, каб я… каб я з табой Новы год сустракала?

— Ну, вядома ж, хачу! — Анжэла засмяялася і, абхапіўшы Вераніку за плечы, прытуліла да сябе. — Вельмі хачу! Дык ты прыйдзеш?

Вераніка моўчкі кіўнула.

— Ну і цудоўна!

Выпусціўшы сяброўку з абдоймаў, Анжэла павярнулася і няспешна накіравалася ў бок новай шаснаццаціпавярховай будыніны, якая, хоць і размяшчалася па-за невялікімі пяціпавярхоўкамі старой забудовы, але значна ўзвышалася над усімі імі.

— Пачакай! — крыху запознена выкрыкнула Вераніка, і Анжэла, спыніўшыся, азірнулася. — А кватэра… нумар кватэры ў цябе які?

У кватэры Анжэлы Вераніка не была яшчэ ані разу. Анжэла не запрашала, а самой Вераніцы неяк няёмка было набівацца…

— Нумар кватэры ў цябе які? — паўтарыла Вераніка. — І ў якім пад'ездзе яна знаходзіцца?

— Усё проста! — Анжэла задумалася на імгненне. — Пад'езд — другі, паверх — трэці, кватэра нумар сорак пяць. А разам: два, тры, чатыры, пяць. Лёгка запомніць, праўда?

— Ужо запомніла! — Вераніка ўсміхнулася і памахала Анжэле рукой. — Ну што, да заўтра!

— А восьмай! — напомніла Анжэла. — Дакладней, у дваццаць нуль-нуль!

* * *

Падыходзячы наступным вечарам да шматпавярхоўкі, Вераніка спынілася і зірнула на гадзіннік.

Без дзесяці восем, дакладней, дзевятнаццаць пяцьдзясят. Пакуль да другога пад'езда дойдзеш, уздымешся на трэці паверх — якраз дваццаць нуль-нуль і будзе…

Вось толькі на дзвярах кодавы замок — так проста ў пад'езд не трапіць.

Наблізіўшыся да дзвярэй, Вераніка пачала націскаць клавішы з лічбамі. Чатыры… потым пяць… затым націснула на кнопку выкліку…

Націснула і пачала чакаць.

Але акрамя працяглых гудкоў нічога не дачакалася…

Памарудзіўшы пару хвілін, яна паўтарыла выклік, але вынік быў тым жа. Дакладней: аніякага выніку не было.

«А можа, у іх дамафон не працуе? — падумала Вераніка. — І як жа мне ў пад'езд трапіць?»

У гэты час нейкая жанчына збочыла з тратуару і накіравалася якраз у гэты бок, на хаду выцягваючы з сумачкі звязку ключоў з характэрнай круглай «таблеткай» сярод іх.

«Вось і выйсце!» — узрадавалася Вераніка.

Але калі яна паспрабавала прашмыгнуць у дзверы адразу ж услед за жанчынай, тая незадаволена азірнулася.

— Ты хіба тут жывеш?

— Не! — матлянула галавой Вераніка, адступаючы на крок. — Я… мне… Мне да сяброўкі трэба…

— Вось няхай сяброўка табе і адчыняе!

І зноў Вераніка засталася адна перад зачыненымі дзвярыма. І нават не ведала, што ж ёй рабіць далей…

«Трэба патэлефанаваць Анжэле!» — падумала раптам Вераніка і нават здзівілася, што простая гэтая думка не прыйшла ёй у галаву адразу. Хуценька выцягнула з кішэні мабільнік, знайшла ў «меню» нумар, націснула, паднесла тэлефон да вуха.

Ніякага адказу — толькі працяглыя гудкі…

Між тым браўся мароз, а зірнуўшы на гадзіннік, Вераніка са здзіўленнем адзначыла, што ўжо восем пятнаццаць. Гэта што ж, яна тут больш за дваццаць хвілін?

— Ну, і што застыла на самым праходзе?

Імгненна азірнуўшыся, Вераніка ўбачыла побач высокага барадатага мужчыну. У левай руцэ ён трымаў вялізную і, здаецца, даволі цяжкую сумку, у правай паблісквалі ключы.

— Ты прайсці дасі?

— Прашу прабачэння! — прашаптала Вераніка, адыходзячы крыху ўбок. — Праходзьце, калі ласка!

Мужчына падышоў да дзвярэй, расчыніў іх, але потым адразу ж спыніўся і акінуў Вераніку доўгім уважлівым позіркам.

Залішне нават уважлівым, калі не сказаць больш...

— Ну, давай, заходзь! — буркнуў ён, па-ранейшаму не зводзячы з дзяўчыны загадкавага позірку. — Чаго марудзіш? Табе ж, я так разумею, у пад'езд трэба?

Ён перахапіў сумку правай рукой, і там штосьці звякнула. Шкляное штосьці…

— Не трэба мне ў пад'езд! — Вераніка зрабіла паспешлівы крок назад, потым яшчэ адзін крок, трывожна азірнулася па баках. — Я тут… я проста сяброўку чакаю! Яна зараз выйсці павінна…

— Ну, чакай, чакай!

Мужчына ўвайшоў у пад'езд, металічныя дзверы зачыніліся за ім вельмі хутка і нават з паблажліва-з'едлівым скрыгатам.

«Вось жа дурніца якая! — у думках папракнула сябе Вераніка. — І чаго спалохалася, каб хто спытаў?!»

Але што адбылося, тое ўжо адбылося… тым больш, што ў гэты час ажыў, заспяваў мабільнік у руцэ. Зірнуўшы на экран, Вераніка з радаснай палёгкай адзначыла, што гэта Анжэла тэлефануе.

— Анжэлка! — закрычала яна, паднёсшы тэлефон да вуха. — Як добра, што ты патэлефанавала!

— А што здарылася? — пачуўся ў тэлефоне крыху здзіўлены голас сяброўкі. — Я тэлефон у кішэні паліто забылася, а зараз выцягнула, гляджу, а там…

— Анжэлка! — перабіваючы сяброўку, закрычала Вераніка. — Я тут, унізе, каля самага пад'езда!

— Каля якога пад'езда? — яшчэ больш здзіўлена запыталася Анжэла. — Нічога не разумею!

— Каля твайго… — Вераніка таксама пакуль нічога не разумела, але шчыра спадзявалася, што яшчэ хвіліна і ўсё высветліцца. — Ты ж мяне запрашала ўчора, вось я і…

Не дагаварыўшы, яна змоўкла ў прадчуванні чагосьці нядобрага.

— Учора? Запрашала? — перапытала Анжэла. — Ах, учора! — амаль адразу ж усклікнула яна. — Ну так, запрашала! Але ж, ты ведаеш, я зараз зусім у іншым месцы… Алё, ты слухаеш?!

Вераніка слухала. Моўчкі, не адымаючы тэлефона ад вуха.

— Проста сёння раніцай маме патэлефанавала яе сяброўка, — працягвала між тым Анжэла. — Ну, тая, з якой мы на Мальдзівах пазнаёміліся на мінулы Новы год. У яе дачка якраз нашага ўзросту, вось яна нас да сябе і запрасіла. Мяне і маму. Каб гэты Новы год таксама разам адзначыць. Алё, ты мяне слухаеш? Чаго ты маўчыш, Вераніка? Алё!

— Але ж ты… — словы даваліся Веранікі цяжка, яны нібыта выпіхвала іх з сябе, пакутліва, па адным, — ты ж магла і патэлефанаваць, папярэдзіць…

— Я проста забылася! За ўсёй гэтай мітуснёй я проста… Ну, з кім не бывае! А ты што, можа, пакрыўдзілася на мяне?

Вераніка нічога не адказала.

«Яшчэ не хапала расплакацца! Не дачакаецца яна, каб я яшчэ і плакала з-за гэтай… з-за гэткай…»

— Ну ты даеш! З-за гэткай дробязі крыўдзіцца…

— Гэта не дробязь! — пракрычала Вераніка ў тэлефон. — Гэта ніякая не дробязь! Ты сама дробязь, зразумела?! Ты — самая дробная дробязь, і нічога больш з сябе не ўяўляеш!

Дакладней, яна вельмі хацела пракрычаць гэта, але чамусьці не змагла. Нейкі час проста трымала тэлефон каля вуха ў слабай надзеі, што Анжэла што-небудзь ёй скажа. Магчыма, папросіць прабачэння…

Але нічога такога не адбылося. Анжэла проста адключыла сувязь.

Амаль усе вокны вялізнага шаснаццаціпавярховага дома былі ярка асветлены. Там людзі рыхтаваліся да сустрэчы Новага года, і толькі тры акны на трэцім паверсе другога пад'езда заставаліся цьмянымі і безжыццёвымі, а значыцца, Анжэла не зманіла — яе і сапраўды не было дома…

Але якое гэта мела значэнне?!

# бярозка



*Штомесячны грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс (для дзяцей сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту)*
***Выдаецца са снежня 1924 года***
***Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны»***

Заснавальнік
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»

В.а. галоўнага рэдактара
Святлана Дзмітрыеўна Воцінава



Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас:
Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by
Тэл./факс: 8 (017) 287-19-19.
Паштовы адрас:
Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 39.
bjarozka@zviazda.by
http://www.maladost.lim.by/berezka
Тэл.: 8 (017) 284-85-24;
8 (017) 284-41-88.

Падпісныя індэксы:
74822 — індывідуальны
74888 — індывідуальны льготны для членаў БРПА
748222 — ведамасны
74879 — ведамасны льготны для ўстаноў адукацыі і культуры

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 210 ад 23.04.2013, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч Карлюкевіч

Намеснік галоўнага рэдактара:
Г. П. Аўласенка
Рэдактары:
К. В. Захарэвіч, Ю. С. Ваўчок
Мастацкі рэдактар:
А. У. Галота
Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
Г. К. Кірэенка
Камп'ютарны набор:
А. Г. Кахноўская
Стылістычныя рэдактары:
А. І. Саламевіч, Г. І. Верабей

Падпісана да друку ??.12.2016 г.
Фармат 60x84 1/8. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 7,44. Ул.-выд. арк. 6,99.
Тыраж 779 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«БудМедыяПраект»
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь





Клуб сяброў часопіса (які фарміруецца з кожным нумарам і складаецца з школ аўтараў, а таксама школ з найбольшай колькасцю падпісчыкаў) прадстаўлены на сайце.

На першай старонцы вокладкі змешчан малюнак Аляксандры Касцецкай.

## Пытанні для знаходлівых

**1.** У Старажытным Кітаі яна была замест грошай, у Старажытнай Грэцыі з'яўлялася неабходным кампанентам панцыра воінаў. Аб чым гаворка?

**2.** Чаму нашы продкі называлі «немцамі» і французаў, і англічан, і шведаў?

**3.** Словы «космас» і «касметыка» — аднаго кораня. Якія адносіны мае касметыка да космасу, і прычым тут Піфагор?

**4.** Каб ноччу не ўлез злодзей, нашы продкі трымалі сабак. А японцы з гэтай жа мэтай заводзілі цвыркуноў. У чым розніца паміж вартавым цвыркуном і вартавым сабакам?

**5.** Пеця, Вася і Ігар едуць у трох суседніх вагонах электрычкі. Сума нумароў іх вагонаў — 24. Назавіце нумары гэтых вагонаў.




— Падстаў далоні, я ў іх табе цукерак насыплю, — кажа Дзед Мароз хлопчыку.

— Ведаеце, вы лепш тату іх насыпце, — адказвае хлопчык.

— Ты што, цукеркі не любіш? — здзівіўся Дзед Мароз.

— Люблю, але ў таты далоні шырэйшыя.

**— Мая сястра кожны дзень бегае па кандытарскіх крамах, — жаліцца Пеця свайму сябру Васю.**

**— Яна што, гэтак цукеркі любіць?**

**— Ды не! Яна мяне шукае!**

Хлопчык пытаецца ў сястры, якой доўга не было дома:

— Ты дзе была?

— У сяброўкі, мы з ёй у лялькі гулялі.

— І хто выйграў?

**— Пеця, чаго ты смяешся? Вось асабіста я нічога смешнага не бачу!**

**— Ды ты і не можаш бачыць, што сеў на мой бутэрброд з маслам і варэннем!**

Адказы на пытанні для знаходлівых:

1. Аб звычайнай солі — яе растворам прамочвалі палатняныя панцыры грэчаскіх воінаў для надання ім трываласці.
2. «Славяне» — «людзі слова», іх можна зразумець. «Немцы» — «нямыя», іх гаворку нельга зразумець. Усіх еўрапейцаў, хто размаўляў на незразумелай для нашых продкаў мове, яны называлі «немцамі».
3. «Космас» у перакладзе з грэчаскай — «прыгожа ўладкаванае наваколле». Адсюль і «касметыка» — «тое, што прыгожае». А Піфагор першым назваў «космасам» Сусвет.
4. Пры набліжэнні чужых сабака пачынаў брахаць. А цвыркуны, якія ноччу сакочуць бесперапынна, рэзка змаўкалі, і гаспадары ад гэтага прачыналіся.
5. Нумары вагонаў — 7; 8; 9. Іх сума: 7+8+9 = 24.

З наступнага года ў кожным нумары часопісаў «Бярозка» і «Маладосць» кранальны фотапраект «Нашы Руіны». Збірай выявы, стварай альбом*.







Касмічнае ўражанне — калі ты далонькамі дакранаешся да гэтай даўніны, да мхоў, да каменя, а не калі ты пералапачваеш літаратуру, чытаеш пра архітэктуру і глядзіш фільмы на «Нэшнл геаграфік».

…На іх няма ніякіх надпісаў. Часам сустракаецца штрышок, нанесены мінулым, нашым сапраўдным мінулым, які-небудзь сімвал.

Вандроўнік Уладзімір Цвірка

*Поўны камплект выяў атрымаецца толькі ў таго, хто чытае абодва выданні.

ISSN 0320-7579






9 770320 757007 16012